# Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (73) красавік 2017 год
CATHOLICNEWS.BY

## Вялікдзень 2017



***Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, дарагія вернікі!***

***“Не бойцеся, ведаю што вы шукаеце Езуса ўкрыжаванага, няма Яго тут, Ён уваскрос, як сказаў...”*** *(Мц 28, 5-6). Словы Анёла, якога сустрэлі жанчыны на досвітку каля магілы, дзе было пакладзена цела Езуса, наноў абвяшчаюць нам радасную вестку пра вялікую перамогу Езуса Хрыста над грахом і смерцю і Яго прысутнасць сярод нас!*

*Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Мы паўтараем гэтыя словы ўслед за незлічонай колькасцю хрысціянаў, якія на працягу вякоў на гэтай праўдзе будавалі сваё жыццё і падмурак той цывілізацыі, да якой мы з вамі належым. Вера ва ўваскрасенне была верай найперш Апосталаў, якія не маглі маўчаць “...пра тое, што... бачылі і чулі”. (Дз 4, 20). Яны былі першымі сведкамі таго, што ўчыніў Езус, прабываючы на зямлі, а таксама сведкамі Яго пакутаў, смерці і ўваскрасення.*

*Шмат хто сёння, выкарыстоўваючы аргумент апостала Тамаша, кажа: “пакуль не ўбачу – не паверу!” Але няхай перад нашымі вачыма заўсёды стаіць вобраз гэтага ж Апостала, які, дакрануўшыся да ран на целе Уваскрослага Настаўніка, сказаў: “Пан мой і Бог мой!” І праз нявернага Тамаша на нас няхай сыходзіць бласлаўленне Хрыста для тых, хто не бачыў, а паверыў.*

*Разам з тым знакаў дзеяння Уваскрослага Хрыста сярод свайго народа ёсць вельмі шмат. І я хачу пажадаць, каб зноў і зноў мы адкрывалі Яго прысутнасць у сваім жыцці. Няхай Велікодныя Святы адновяць нашую веру і прынясуць супакой і радасць, якія дае ўдзел у перамозе Хрыста над грахом і смерцю! Прыняцце Уваскрослага Хрыста няхай дапаможа нам жыць у згодзе і прабачэнні як паміж роднымі і блізкамі, так і паміж усімі вызнаўцамі Езуса, бо для Яго мы ўсе дзеці Божыя, якім падрыхтаваны ўдзел у Валадарстве Нябесным.*

*Жадаю ўсім радасных Святаў, здароўя, супакою і Божага бласлаўлення!*

***Хрыстос Уваскрос! Аллелюя!***

**+Алег Буткевіч,**
**Біскуп Віцебскі**

## Семінар для сузалежных людзей прайшоў у Бягомлі


Стар. 4

## Анёлак са слоіка з-пад гарчыцы, або Як спячы пасхальнае ягнятка?


Стар. 8

## Ці можна прымусіць паспавядацца?


Стар. 13

# Святы Айцец здзейсніць афіцыйны візіт у Егіпет

**Папа Францішак здзейсніць 28-29 красавіка 2017 года апостальскае падарожжа ў Егіпет.**

Візіт стане адказам Пантыфіка на запрашэнне Прэзідэнта і каталіцкага епіскапату краіны, а таксама Патрыярха Копцкай Праваслаўнай Царквы і вялікага імама мясцовага ўніверсітэта "Аль-Азхар". Афіцыйная праграма двухдзённай паездкі Святога Айца будзе анансавана пазней. Пра гэта 18 сакавіка паведаміла Зала Друку Святога Пасаду.

Папа Францішак накіруецца ў Каір, каб працягнуць дыялог з прадстаўнікамі ісламу, распачаты ў мінулым годзе падчас візіту ў Ватыкан прафесара Ахмеда аль-Таеба, вялікага імама мусульманскага ўніверсітэта "Аль-Азхар".

Узгаданая сустрэча двух рэлігійных лідараў мела вялікае міжрэлігійнае значэнне, бо ўзнавіла рэгулярныя кантакты мусульманскага ўніверсітэта "Аль-Азхар" з Апостальскай Сталіцай, прыпыненыя ў 2011 г. Падставай для пагаршэння двухбаковых адносін паслужыла заява Бэнэдыкта XVI пра адсутнасць у Егіпце рэлігійнай свабоды і недастатковую абарону хрысціянскіх святынь, што прагучала як рэакцыя на здзейснены крывавы замах на копцкі касцёл у Александрыі.

Дарэчы, удзел у мерапрыемствах, запланаваных падчас візіту Папы Францішка ў Каір, будзе прымаць і Патрыярх Копцкай Праваслаўнай Царквы Тавадрас II. Яе вернікі складаюць у Егіпце рэлігійную меншасць і адчуваюць пагрозу з боку радыкальнага ісламізму і тэрарыстаў групоўкі "Ісламская дзяржава". Таму апостальскае падарожжа Святога Айца заклікана стаць пасланнем міру, адрасаваным усяму рэлігійнаму і палітычнаму свету.



Да абароны хрысціян у зонах канфліктаў на Блізкім Усходзе, спынення гвалту і тэрарызму і вырашэння праблем шляхам дыялогу і перамоў заклікаў Пантыфік і падчас сустрэчы ў лістападзе 2014 г. у Ватыкане з Прэзідэнтам Егіпта Абдэлем Фаттах аль-Сісі.

*Ватыканскае радыё*



# Першая ледзі ЗША ўручыла прэмію "Women of Courage" сястры-салезіянцы

**29 сакавіка ў Дзяржаўным дэпартаменце ЗША Мелані Трамп, першая ледзі, і Томас Шэнан, намеснік Дзяржаўнага сакратара па палітычных пытаннях, уручылі штогадовую міжнародную прэмію "Women of Courage", прызначаную для адважных жанчын, якія выконваюць сваю місію ў небяспечных і складаных абставінах, паведамляе Agenzia Info Salesiana.**

Адной з 13 лаўрэатак стала сястра-салезіянка Кэралін Таха Фахак, настаяцельніца супольнасці Дачок Марыі Дапамогі Хрысціянам у Дамаску, у Сірыі.

На сёння гэта адзіная законная сястра, якая атрымала такую ўзнагароду. Сястра Кэралін Таха нястомна працавала, каб задаволіць патрэбы абяздоленых жыхароў у Сірыі, у прыватнасці бежанцаў і дзяцей.

Падчас інтэнсіўных бамбардзіровак, якія зведаў Дамаск, сястра Кэралін пастаянна сачыла за бяспекай дзяцей, давала надзею ўсім, мусульманам і хрысціянам, нават калі даводзілася рызыкаваць уласным жыццём.

Сястра і яе супольнасць і падчас ваенных дзеянняў не спыняюць браць пад апеку дзяцей і жанчын, каб забяспечыць ім супакой і стварыць хаця б мінімальныя ўмовы нармальнага жыцця.

*Пераклад catholicnews.by*

# Святы Айцец не адмовіцца ад планаў паездкі ў Егіпет

**Нядзельныя напады на копцкія цэрквы ў Каіры і Александрыі не паўплываюць на планы Францішка, які наведае Егіпет у канцы месяца, 28-29 красавіка 2017 г. У гэтым запэўніў субстытут Святога Пасаду, арцыбіскуп Анджэла Бэчу, у інтэрв'ю „Corriere della Sera".**

У Пальмовую нядзелю тэрарыстычная групоўка "Ісламская дзяржава" здзейсніла два тэракты ў копцкіх храмах, у выніку якіх загінулі па меншай меры 43 чалавекі і больш за 100 атрымалі раненні.

"Нас запэўнілі, што ў Егіпце ўсё пройдзе добра, таму мы едзем са спакоем. Не хаваючы рэчаіснасці, якая часам не вельмі абнадзейвае, Папа заклікае глядзець з надзеяй у будучыню. Як заўсёды, ён сам дае прыклад", - сказаў іерарх, які будзе суправаджаць Францішка ў падарожжы. У яго не выклікае сумневу тое, што апошнія атакі нацэлены на дыялог і мір: "а таксама ўскосна гэта паведамленне для кіраўніцтва краіны супраць хрысціянскай меншасці, якая ў апошні час у нейкай ступені, атрымала больш свабоды". Няма размовы пра адмову ад паездкі ці пра змены ў яе праграме, падкрэсліў італьянскі іерарх. "Тое, што адбылося, выклікае смутак і моцны боль, але не можа перашкодзіць Пантыфіку ў выкананні місіі міру", - дадаў ён.

Ватыканскі дыпламат лічыць, што дыялог з ісламам служыць ізаляцыі фундаменталістаў і адхіляе ідэі тых, хто імкнецца да вайны цывілізацый.

*Ватыканскае радыё*

# Беларусь у "святых" гербах: Радашковічы

**Першае маё ўражанне, калі я ўбачыў герб Радашковічаў, сфарміравалася ў пытанні: што сее чалавек?**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Расіца*



Здавалася, што гэта менавіта сейбіт, вобразна прадстаўлены ахінутым мантыяй зямлі. Парастак за сейбітам – гэта будучы плён, раскрытая рука – знак сейбіта. Безумоўна, калі б я ведаў, што гэта святы, нават без пазначэння імя, то мог бы па чырвоным колеры адзення здагадацца, што на выяве мучанік. Калі прыгледзецца ўважліва, то можна, ведаючы, як выглядае касцельнае літургічнае адзенне, заўважыць, што сейбіт апрануты ў нешта накшталт дыяканскай далматыкі.



Іншая версія герба выразна паказвае, што гэта не зямля... Мне падалося, што тут адлюстравана нешта зусім іншае – напрыклад, боханы хлеба! І тады першая здагадка – гэта святы дыякан Стэфан!

Гісторыя яго жыцця, служэння і мучаніцтва апісаныя ў Дзеях святых апосталаў. Ён як адзін з першых дыяканаў Касцёла атрымаў прызначэнне раздзяляць паміж беднымі харчаванне, у тым ліку хлеб. Апрача гэтага, ён быў чалавекам вялікай веры: праз яго рукі Бог чыніў цуды і шмат людзей прымала Хрыста.

Усё на свае месцы ставіць апісанне герба пры яго наданні. Яно тлумачыць, што гэта сапраўды святы Стэфан, але не з боханамі хлеба, а з камянямі. І тут усё лагічна, бо Дзеі святых Апосталаў апісваюць мучаніцкую смерць Стэфана менавіта як камянаванне. Можа, на гербе камяні і завялікія, бо гісторыкі кажуць, што камень павінен быў змяшчацца ў руцэ, і кідалі яго першымі сведкі абвінавачвання, а за імі ўсе прысутныя.

Загадкай застаецца, чаму менавіта святы Стэфан стаў апекуном горада?



# Касцёл, які "адчыняе" дарогу да неба

**Даліна Маджа – гэта край, які належыць італьянскаму кантону Тычына. Размешчаны непадалёк ад швейцарскага горада Лакарна, ён славіцца велічнымі каскаднымі вадаспадамі Садаліна.**

Відовішчныя вадаспады прыцягваюць італьянскіх і швейцарскіх турыстаў. Тым не менш, варта падняцца вышэй, каб знайсці месца, куды выпадковыя людзі не трапляюць. У Маньё, якое знаходзіцца на вышыні 1180 м. над узроўнем мора, акружаны вяршынямі Лепантынскіх Альпаў, з'явіўся касцёл выключнай архітэктуры.

Новая святыня, заступнікам якой з'яўляецца св. Ян Хрысціцель, збудаваная ў месцы, важным для жыхароў Маньё і адначасова сімвалічным: на падмурках храма, што быў знішчаны раней сходам лавіны.

Яго форма простая і масіўная. Невялікая ў памерах глыба ўяўляе сабой зрэзаную пад вуглом 45 градусаў прызму з эліптычнай асновай. Сваёй прастатой і манументальным выглядам яна можа нагадаць раманскую сакральную архітэктуру, якая славіцца так званым "абаронча" характарам.

У сваіх сакральных праектах архітэктар святыні Марыа Бота надае вялікую ўвагу шляху, які вядзе ў глыбіню святыні – пераходу ад прасторы profanum у сферу sacrum. У капліцы ў Маньё гэты шлях не такі відавочны, калі бачыш яго ўпершыню.

Галоўнага ўваходу да будынка з вуліцы не відаць. Ён паглыблены адносна агульнага ўзроўню і дазваляе паступова ўваходзіць у цішыню і паслухмянасць, ізаляцыю ад знешняга свету. Перш чым увайсці ў галоўныя дзверы святыні, трэба прайсці невялікі, аддзелены каменнай сцяной прастор з кантрфорсам. Пад кантрфорсам размешчаны ўваходныя вароты, якія верцяцца, а над імі знаходзіцца нетыповая званіца. У дажджлівыя дні вада, што сцякае з даха, ударае ў звон, а потым над галовамі тых, хто ўваходзіць, струменіцца да невялікай вадазборнай канструкцыі.

Прайшоўшы праз масіўныя дзверы, адчыніць якія зусім не так проста з першай спробы, а затым увайшоўшы ў святыню, апынаемся ў маленькім памяшканні, якое ад непасрэднага малітоўнага памяшкання аддзелена каменнай калонай. Наколькі знешняя форма святыні здаецца масіўнай і замкнёнай у сабе, настолькі ўнутры яна зззяе святлом і лёгкасцю. Гэта адначасова вытанчана і сціпла.

Самае важнае, што прыцягвае погляд да сябе нязмушана і натуральна, – гэта фігура ўкрыжаванага Хрыста над галовамі вернікаў. У цэнтры стаіць каменны алтар, табернакулюм з правага боку, старадаўняя фігура Багародзіцы з Дзіцяткам і чаша для хросту злева. Здзіўленне можа выклікаць тое, што план пабудовы святыні грунтуецца на прамавугольніку, хоць вонкава яго форма – эліпс.

Тым не менш, гэта не ўсё, чым здзіўляе архітэктура інтэр'еру. Аказваецца, што разам са зменай вышыні прастакутная праекцыя паступова змяняецца і імкнецца да ідэальнай формы, сімвала дасканаласці, паўнаты і Бога – у круг.

Гэты просты, але адначасова высокаякасны ход архітэктара Бота, прыкмета ўзроўню яго мастацтва архітэктара і майстэрства будаўнікоў, адкрывае ўсю ўнутраную частку на неба. А круглае па форме акно ў столі выглядае як акно да самога Творцы. Святло, што падае зверху, мае таксама сімвалічнае вымярэнне. Яно выконвае ў праекце вельмі важную, нават галоўную ролю.

Разам са зменай пары года, а таксама надвор'я і характар інтэр'еру змяняецца, становячыся дзякуючы гэтаму залежным ад боскіх сіл.

Жывучы з дня на дзень, чалавек прывыкае ўспрымаць навакольны свет фрагментарна, а менавіта бачыць толькі тое, што знаходзіцца на ўзроўні вачэй. Між іншым храм у Маньё спрабуе змяніць перспектыву погляду на рэчаіснасць. Ён акцэнтуе погляд на вертыкаль – адносіны паміж асобай на зямлі і Тым, Хто ў небе. Стоячы ўнутры гэтага будынка, чалавек мае магчымасць узняць вочы ўверх, да Бога.

*deon.pl*
*пераклад catholicnews.by*

# Польскі арцыбіскуп Станіслаў Будзік уражаны Касцёлам на Гомельшчыне



**1-2 красавіка 2017 г. упершыню Гомельшчыну наведаў арцыбіскуп Люблінскі Станіслаў Будзік. Польскі іерарх прыехаў паглядзець на плён служэння ў Беларусі трох ксяндзоў са сваёй дыяцэзіі.**

**Павел Міцкевіч**, *Ватыканскае радыё*

Ужо шмат гадоў тут, у Пінскай дыяцэзіі, працуюць пробашчамі кс. Славамір Ласкоўскі, кс. Тадэвуш Саморэк і кс. Яцэк Баровец. Увогуле ксяндзы з Люблінскай дыяцэзіі служаць у розных кутках свету, і арцыбіскуп імкнецца наведаць кожнага свайго місіянера.

На Гомельшчыне іерарх пабываў у парафіях усіх трох пробашчаў – у Гомелі, Светлагорску і Петрыкаве, цэлебраваў св. Імшу і напярэдадні адмысловa вывучыў парадак св. Імшы па-беларуску. Таксама арцыбіскуп Люблінскі наведаў гомельскі "Дом міласэрнасці Місіянерак любові" і Дзіцячую вёску для інвалідаў, пабудаваную пры падтрымцы "Карытас".

Больш за 25 гадоў у Беларусі служыць кс. Славамір. Калі ён прыехаў у Гомель, тут не было ні парафіі, ні каталіцкага храма, а цяпер ён мае каля тысячы парафіянаў. Як распавёў Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё арцыбіскуп Люблінскі, ён уражаны плёнам служэння кс. Славаміра ў Гомелі: тым, што мясцовая каталіцкая супольнасць жывая і дынамічная, дае хрысціянскае сведчанне і робіць справы міласэрнасці. "Каталіцкі Касцёл у гэтым рэгіёне Беларусі мае сваю спецыфіку: ён знаходзіцца ў меншасці, мае невялікія супольнасці. Таму яго можна параўнаць з Касцёлам першых хрысціянаў, які трываў на малітве, на ламанні хлеба і з'яўляўся маленькай, але дынамічнай апостальскай супольнасцю, дзе ўсе ведалі адно аднаго і клапаціліся адно пра аднаго. І гэта характэрна для цяперашняга Касцёла на Гомельшчыне", – сказаў арцыбіскуп.

Адна з парафій, якую ён наведаў, знаходзіцца ў невялікім райцэнтры Петрыкаве на Палессі. Яна вельмі маленькая, тут мала дзяцей і моладзі. Але іерарх раіць пробашчам такіх парафій не адчайвацца: "Паўсюдны Касцёл таксама пачынаўся з малых груп людзей. Ёсць адна рэлігійная песня пра тое, што вучняў Хрыста было ўсяго дванаццаць, а людзей – мільёны, але апосталы пайшлі ва ўсе бакі свету, як зерне, кінутае ў зямлю, якое калісьці прарасце і з яго паўстане вялікае дрэва. Таму варта часцей звяртацца да кнігі Дзеяў апосталаў. Магчыма, ураджай будзе збіраць нехта іншы, але патрэбна сеяць добрае зерне, каб з яго нешта вырасла".

Арцыбіскуп прызнаўся, што калі вернецца ў Люблін, распавядзе пра багаты плён ксяндзоў на Гомельшчыне: "Я ўжо шмат гадоў наведваю сваіх святароў на розных кантынентах, але не сустракаў яшчэ такіх сітуацый, як тут, калі пробашчы былі вымушаны будаваць усё нанова. У Амерыцы, Афрыцы святары ўваходзяць у традыцыю, якая ўжо існуе, а тут патрэбна было пачынаць усё з нуля. Я вельмі цешуся, што тут так добра атрымліваецца развіваць Касцёл. І я абавязкова распавяду пра гэта іншым святарам у Любліне, каб іх таксама заахвоціць да адкрытасці на патрэбы іншых Касцёлаў".

Арцыбіскуп Люблінскі таксама адзначыў, што ў гомельскай парафіі яго ўразіла вялікая колькасць дзяцей і моладзі, сужэнскіх пар. Ён паабяцаў памятаць мясцовых католікаў у сваіх малітвах.

# Якая малітва найбольш даспадобы вернікам?

Малітва з'яўляецца вельмі важнай часткай хрысціянскага жыцця. Кожны дзень у святынях Паўсюднага Касцёла вернікі збіраюцца на супольныя набажэнствы.

**А якая малітва найбольш даспадобы беларускім католікам, пацікавіўся "Каталіцкі Веснік"?**

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі**



- Малітва да Маці Божай – 15 адказаў;
- малітвы на ўшанаванне мукі Пана: Крыжовы шлях, Песні жальбы – 18 адказаў;
- адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту – 30 адказаў;
- малітвы да Божай Міласэрнасці – 9 адказаў;
- святая Імша – 65 адказаў;
- малітвы да святых – 0.

**Усяго – 137 адказаў.**

***Падрыхтавала Ірына Радзевіч***

# Семінар для сузалежных людзей прайшоў у Бягомлі



**Адбылося гэта ў нядзелю, 2 красавіка, у Цэнтры дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач" пры парафіі Езуса Хрыста – Валадара Сусвету.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота;* **Леанід Юрык**, *фота*

На семінар прыехалі ўдзельнікі з Глыбокага, Шуміліна, Мёраў, Друі, Полацка, Наваполацка, Верхнядзвінска, Докшыц. Гэта ўжо другое падобнае мерапрыемства, якое праводзіць названы Цэнтр. Першы семінар для залежных ад алкаголю і наркотыкаў прайшоў тры месяцы таму.

Цэнтр у Бягомлі адкрыўся ў мінулым годзе. Праз яго прайшлі ўжо дванаццаць чалавек. *"Праз некаторы час мы прыйшлі да вываду: вельмі важна даносіць ідэі, што ў чалавека праблемы з алкаголем, менавіта праз сузалежных, людзей, якія побач жывуць, якія бачаць, што праблема ўжо ўзнікае і з ёй нешта трэба рабіць,"* – кажа кіраўнік Цэнтра Уладзімір Шчэпін. Ён лічыць, што з такім захворваннем павінны змагацца і сам залежны чалавек, і яго родныя: *"Алкагалізм – захворванне сямейнае, і калі толькі з адным чалавекам працаваць, то вынік будзе слабы. А калі ў гэтым кірунку працуюць і родныя, і сам залежны чалавек, то і вынік будзе зусім іншы".*

Распачаўся семінар са святой Імшы ў капліцы Хрыста – Валадара Сусвету, якую ўзначаліў айцец Тадэвуш Кавальскі. Ён у свой час і прапанаваў месца для працы гэтага Цэнтра ў Бягомлі. На Імшу сабраліся як удзельнікі семінара, так і мясцовыя жыхары, таму святыня была цалкам запоўненая.

У сваім слове да вернікаў айцец Тадэвуш звярнуў увагу на важнасць Божай дапамогі і ўласнай працы, у тым ліку над сабой. Бо толькі разам гэтыя чыннікі могуць даць добры вынік: *"Па-першае, трэба спадзявацца на Божую дапамогу, але і рук сваіх апускаць не трэба".* З гэтай нагоды святар узгадаў вядомы манаскі дэвіз: "Ora et labora" – маліся і працуй. Бо немагчыма спадзявацца толькі на Божую дапамогу, а самому нічога не рабіць у гэтым накірунку. Таксама не можа мець добрага выніку праца, якая робіцца без Бога.

Пасля Імшы псіхолаг Цэнтра Таццяна Шчэпіна пазнаёміла прысутных з агульнай праблемай сузалежнасці, распавяла, як яна ўзнікае. Бо праблема сузалежных людзей – хто жыве побач з тымі, хто пакутуе на залежнасць, не меншая, а часам нават большая. І вельмі часта людзі не ведаюць, як дапамагчы свайму блізкаму, што патрапіў у залежнасць ад алкаголю ці наркотыкаў. *"Важна працаваць з сузалежнымі, бо яны ў нейкай ступені правакуюць ужыванне, хоць гэта і гучыць парадаксальна. Сузалежныя сваімі паводзінамі, ратуючы алкаголіка, дапамагаюць яму ўжываць",* – адзначыла Таццяна Шчэпіна.

Менавіта таму, як дапамагчы, а не нашкодзіць залежнаму чалавеку, і была прысвечана праца семінара. Пасля прэзентацыі Таццяны Шчэпінай слова ўзяла псіхолаг Людміла Кандыбіна, якая адмыслова прыехала на мерапрыемства з Наваполацка. Напачатку яна папрасіла прысутных паўдзельнічаць у сцэнцы, каб паказаць, што адчувае алкаголік, калі з усіх бакоў у яго ёсць падтрымка, якая не дае яму задумацца над сваёй праблемай і працягвае далейшае ўжыванне.

А вось калі гэту падтрымку прыбраць, у чалавека з'яўляецца шанец задумацца над сваёй праблемай і пачаць змяняць сваё жыццё. Але каб дапамагчы іншаму чалавеку, трэба ў першую чаргу дапамагчы сабе, змяніць сваё жыццё, лічыць Уладзімір Шчэпін: *"Немагчыма даць чалавеку нейкую любоў, нейкую дапамогу, пакуль не дапаможаш сам сабе. А сузалежны чалавек яшчэ больш церпіць, ён не разумее, ад чаго церпіць. І каб дапамагчы іншаму чалавеку, спачатку трэба прывесці сябе ў парадак".*

Пасля абеду семінар вырашылі праводзіць на свежым паветры, бо гэтаму паспрыяла веснавое сонечнае надвор'е. Людміла Кандыбіна асноўную ўвагу засяродзіла на практычных занятках, на ролевых гульнях, дзе ўсе ўдзельнікі павінны былі не проста слухаць, а самі прымаць нейкія рашэнні.

*– Большая частка чалавецтва не мае вопыту пабудовы адносін, і каб яго атрымаць, неабходныя дзеянні. Седзячы на семінарах, жыццё не зменіш. А тут трэба прагуляць міні-мадэль жыцця, каб чалавек сам зразумеў гэта праз трэнінгі, гульні,* – адзначыла спадарыня Людміла.



*Уладзімір Шчэпін, кіраўнік Цэнтру "Светач" у Бягомлі*

Генадзь Бервячонак, які прыехаў на семінар з Глыбокага, у свой час сам сутыкнуўся з праблемай алкагольнай залежнасці. Паспяхова з ёй справіўшыся, ён вырашыў дапамагаць іншым людзям, што маюць такую залежнасць. Ён марыў адкрыць падобны цэнтр у Глыбокім, размаўляў пра гэта з кіраўніцтвам раёна, нават памяшканне ўжо падбіраў. Але летась у Будславе пазнаёміўся з Таццянай і Уладзімірам:

*– Мы з імі пазнаёміліся, і ад іх я даведаўся, што ў Бягомлі ўжо існуе такі Цэнтр. І я стаў з імі ўзаемадзейнічаць.*

Гэтае сяброўства стала паспяховым, і спадару Генадзю прапанавалі пасаду камерцыйнага дырэктара Цэнтра.

*– Я ўжо пачаў гэтым займацца, і ўжо ёсць нейкія першыя крокі. Ёсць прадпрыемствы, ёсць камерцыйныя структуры, якія ўжо на сённяшні дзень аказваюць нам дапамогу. І гэтым я буду надалей займацца,* – дзеліцца Генадзь Бервячонак сваімі першымі поспехамі.

Людміла Кандыбіна звярнула ўвагу прысутных на тыя моманты ў жыцці, пра якія мы часта забываемся. Напрыклад, яна сказала, што, калі мужчына, прызнаючыся ў каханні, кажа дзяўчыне, што жыць без яе не можа, ад яго трэба бегчы як мага далей:

*– Калі мужчына прыходзіць і, сам таго не разумеючы, кажа пра сваю праграму. А праграма якая? Ён мужчына, і кажа, што жыць без цябе не магу, бо мяне ногі не трымаюць, у мяне няма духоўнай восі, і я такі нікчэмны, што без цябе я проста прападу.*

Перад завяршэннем семінара ўдзельнікі, узяўшыся за рукі, прачыталі малітву аб душэўным супакоі. Менавіта такое кола паказвае, што разам мы здольныя перамагчы праблему, якую чалавек адзін вырашыць не можа.

*– Калі мы аб'ядноўваемся, нараджаецца нешта трэцяе, а гэта менавіта тая сіла, якая перавышае нашу ўласную. Калектыўнае заўсёды мацнейшае,* – падкрэсліла Людміла Кандыбіна.

Напрыканцы семінара ўдзельнікі падзяліліся сваімі ўражаннямі ад гэтага дня.

*– Я ўжо тут другі раз і лічу, што калі ў людзей ёсць праблемы, то яны павінны сюды звяртацца, каб не заставацца з ёй сам-насам,* – кажа Святлана з Полацка.

Саша з Мёраў выказаўся так:

*– Тут ёсць шанец для алкаголіка, які хаця б жадае нешта зрабіць над сабой, жадае спыніцца. І, прыехаўшы сюды, можна атрымаць шанец пачаць усё спачатку.*

*– Я засталася задаволеная, вельмі шмат чаго новага тут атрымала. Па-першае, гэта супакой. Праўда, яго я атрымліваю, калі хаджу ў касцёл ці капліцу. Але тут ён умацаваўся і памножыўся. А па-другое, тут у мяне з'явіліся новыя сябры і знаёмыя, якія таксама хочуць, каб іх родныя жылі без алкаголю,* – адзначыла Элеанора, адна з самых актыўных удзельніц мерапрыемства.

Кіраўнікі Цэнтра засталіся задаволеныя праведзеным мерапрыемствам. Яны адзначаюць, што іх Цэнтр не дае стоадсоткавай гарантыі таго, што залежны чалавек, прайшоўшы курс рэабілітацыі, адразу пазбавіцца сваёй шкоднай звычкі.

*– Выздараўленне залежнага чалавека залежыць найперш ад яго самога. Наколькі ён будзе выкарыстоўваць тое, што атрымае тут. Ёсць людзі, якія па сённяшні дзень застаюцца цвярозымі, вядуць здаровы лад жыцця. Ёсць і тыя, хто зрываецца, але яны ўжо ведаюць, што трэба рабіць, каб змяніць сваё жыццё,* – адзначае Уладзімір Шчэпін.

З ім згодная і яго жонка Таццяна:

*– Наша задача – каб чалавек расплюшчыў вочы, каб зразумеў, што ў яго ёсць залежнасць, каб ён прыняў такую хваробу. Для гэтага ёсць цэлая праграма, па якой мы працуем. Дзякуючы гэтай праграме, калі ён прапрацоўвае сваё жыццё, калі ўсё ўспамінае, асэнсоўвае, ён прыходзіць да вываду, што так, у яго ёсць гэта праблема, з ёй нешта трэба рабіць. А самае галоўнае, ён прызнае сваё бяссілле перад хваробай, і ў яго ёсць толькі два выйсці: або ён перастае ўжываць, або працягвае і становіцца на крок бліжэй да смерці.*

Уладзімір і Таццяна Шчэпіны выказалі ўпэўненасць, што на наступны семінар, які плануецца правесці летам гэтага года, прыедзе яшчэ больш удзельнікаў, бо толькі разам мы здольныя перамагчы праблему алкагольнай і наркатычнай залежнасці, каторая ў апошні час вельмі востра стаіць перад нашым грамадствам.

**Кантакты Цэнтра:**

***Віцебская вобласць, Докшыцкі раён, г. п. Бягомль, вул. Кірава, 6***
***Тэл.: +375 33 345 52 78; +375 29 532 68 66***
***E-mail: svetotch@tut.by***
***сайт: svetotch.by***



# Памяць пра ксяндза Уладаса Пятрайціса жыве на Мёршчыне

**Сёлета, 9 мая, спаўняецца пяць гадоў з дня смерці ксяндза Уладаса Пятрайціса.**

Імкліва бяжыць час. Але і сёння ні яго імя, ні яго добрыя справы не забыты. Ксяндза паважаюць і памятаюць тыя, каму пашчасціла жыць побач з ім і слухаць слова Божае з яго вуснаў.

Яго палюбілі адразу, калі з прыязнай, светлай усмешкай выйшаў ён да алтара на сваю першую Імшу ў Мёрах у лістападзе 1985 года. Ксёндз Уладас запаліў сэрцы парафіян ужо тым, што прывітаў кожную вёску, усіх вернікаў, якія прысутнічалі на святой Імшы, і тых, хто па нейкіх важных прычынах не змог тады быць у касцёле. Душэўная прастата і мудрыя парады прыцягвалі да яго не толькі мясцовых жыхароў, але і людзей з іншых месцаў. Шчыры і самаадданы святар не шкадаваў сілы і здароўя, змагаўся за адраджэнне веры на нашай мёрскай зямлі.

Напэўна, у тым, што цяпер у Мёрах такая моцная парафія і такая вялікая колькасць актыўных вернікаў, ёсць немалая заслуга малітваў і намаганняў ксяндза Уладаса Пятрайціса, яго прыклад вернасці Богу і Касцёлу. І сёння былога пробашча памятаюць і паважаюць, згадваюць як таленавітага святара са шчырай малітвай, высокаадукаванага, эрудаванага чалавека з бязмежным аптымізмам, як унікальнага псіхолага.

Стэфаніда Мяніцкая з вёскі Дэмскія ўспамінае, што ксёндз Уладас з верай гаварыў: "Бог ёсць! Ён нас усіх любіць, ведае нашы думкі і чуе нашы малітвы".

Ураджэнец і жыхар Літвы, ксёндз Уладас прыехаў у Беларусь і вывучыў беларускую мову, стаў маліцца па-беларуску і палюбіў нашу краіну шчыра, усім сваім сэрцам. Захапленне першароднай прыгажосцю і хараством беларускай прыроды ён пранёс праз усё сваё жыццё.

Жыхаркі Лявонпаля Марыя Шук і Ванда Кавалеўская памятаюць, як аднойчы, служачы ўжо ў слабодкаўскім касцёле, ксёндз Уладас па просьбе дэкана прыехаў у лявонпальскі касцёл (які, дарэчы, сам адрадзіў з руінаў) адправіць святую Імшу. З захапленнем углядаючыся ў маляўнічыя краявіды Лявонпаля, святар сказаў: "Як тут хараша, як лёгка тут дыхаецца! Як жа я люблю гэтае прыгожае месца з такой багатай гісторыяй! А галоўнае багацце – гэта людзі, якія жылі і жывуць на гэтай зямлі!.."

Многія з яго былых парафіян берагуць памяць пра гэтага светлага чалавека, добрага Пастыра, каторы заўсёды знаходзіў для кожнага неабходныя словы падбадзёрвання ў патрэбны момант. Кожнага, хто да яго звяртаўся, ён сустракаў з усмешкай, якая выклікала прыхільнасць і давер. Людзі вельмі ксяндза паважалі.

Браніслава Каськевіч з вёскі Вята памятае ксяндза Уладаса Пятрайціса як спагадлівага, добразычлівага святара і чалавека. Ён заўсёды знаходзіў хвіліну выслухаць і старога, і малога, даць добрую параду. Яго ўсмешка і невычарпальная энергія радавалі і сагравалі вернікаў.

Ксёндз Уладас вельмі любіў май. І не дзіва, бо 14 мая 1985 г. ён атрымаў у Літве святарскае пасвячэнне. І так сталася, што яго зямны шлях таксама закончыўся ў квітнелым маі, за некалькі дзён да 27-годдзя святарства.

Адметнымі рысамі ксяндза Уладаса з'яўляліся высокая духоўнасць, багацце душы, вялікая актыўнасць. Каля касцёла, дзе б ён ні служыў, часта працаваў разам з парафіянамі. І такой блізкай і любай была яго сэрцу гэтая справа, што ў апошні дзень свайго жыцця, 9 мая 2012 г., ён таксама працаваў каля касцёла ў Іказні. Было ў яго шмат планаў і задумаў, а Божыя планы былі іншымі: увечары ксёндз адышоў у вечнасць. Паміраючы, яго сэрца балела за Касцёл.

Мы памятаем пра ксяндза Уладаса ў сваіх малітвах і верым у яго заступніцтва за нас перад Панам Богам. Просім, каб міласэрны Хрыстус узнагародзіў ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса ў Сваім Валадарстве.

Вечны адпачынак дай яму, Пане!

*Ад імя вернікаў,*
***Алена Сакалоўская***

# Бачу Тваё ўваскрасенне


HOŁAS DUŠY

Голас душы

№ 3, сакавік, 1991 г. Выданьне Мёрскага рыма-каталіцкага касцёла

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Зь вялікім сьвятам радасьці і ажыўленьня вітаем вас! Радуйся, Бацькаўшчына! У тваю душу ўліваецца надзея — вясна прыйшла на тваю зямлю.

**Сёння ва ўсім каталіцкім свеце радуюцца сэрцы вернікаў: Хрыстос уваскрос!**

**Сёння да нас прыйшло доўгачаканае свята. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што яно нават у сэрцы нашых братоў і сясцёр, якія не вераць, прынесла тое пачуццё святочнай радасці, якое цяжка выказаць словамі...**

■ **а. Уладас Пятрайціс**, *"Голас душы", №3, сакавік 1991 г.*

Мы пакланяемся і любім Жывога Уваскрослага Бога. Мы молімся, спяваем песні і псальмы Яму, Які не збаяўся пакутаў, смерці дзеля нашага выратавання. Мы ідзём за Ім, Які стаў ахвярай дзеля ўзнаўлення праўды. Ён вядзе нас да выратавання. Менавіта таму і мы абавязаны быць жывымі ў найлепшым сэнсе гэтага слова: быць светлымі ў сваіх памкненнях, справядлівымі да іншых, мы павінны любіць праўду і жыць праўдай. Бо толькі для такіх людзей напоўніцу раскрываецца і робіцца зразумелаю ўся веліч сённяшняга дня.

Вернемся ў думках ў далёкую гісторыю, да вытокаў нашай рэлігіі...

Хрыстос ведаў, што наканавана Яму, і шмат гаварыў пра пакуты, якія чакаюць Яго, пра смерць Сваю, пра Сваё ўваскрасенне. І ўсё ж апосталы не маглі да канца паверыць ва ўсё гэта. І нават Яго прадказанні пра Свае пакуты і смерць, якія ўжо збыліся, не ўмацавалі іхнюю веру ва ўваскрасенне. Зведаўшы нечуваны страх пасля смерці свайго Настаўніка, яны, як авечкі без пастуха, збіліся ў гурт ды чакалі, што ж будзе далей.

І калі прыбегла перапалоханая Марыя Магдалена і аб'явіла пра ўваскрослага Настаўніка, апосталы зрэагавалі на вестку вельмі неспадзявана. Не радасць і шчасце адчулі яны, не жаданне падзяліцца вялікай радасцю з іншымі, а найперш пайшлі правяраць магілу. І толькі пасля таго, як уваскрасенне засведчылі людзі, каторым пашчасціла быць сведкамі гэтай падзеі, толькі тады і апосталы, Яго вучні, паверылі і перапоўніліся радасцю.

Ці не праўда, што нам, якія жывуць у прагматычным дваццатым стагоддзі, гэты недавер, гэтая рэакцыя зразумелыя? Напэўна, ад пачатку самога існавання роду чалавечага на зямлі людзей нібы пераследуе недавер да ўсяго, чаго самі не бачылі, не мацалі рукамі.

Уваскрасенне Хрыста – гэта перамога дабра, справядлівасці, любові, праўды, самога жыцця над усялякім злом. Жывучы ў свеце падману, хітрасці, зайздрасці, гвалту і рабавання, сапраўды надзвычай цяжка паверыць і сэрцам адчуць такую незвычайную навіну, як уваскрасенне. Горка, вядома, але так яно было: Сын Божы, перамогшы прах і смерць, яшчэ павінен быў пераканаць і Сваіх вучняў у Сваёй перамозе.

Сёння ж мы без страху і недаверу сустракаем дзень пакутаў Хрыста, таму што верым у Яго ўваскрасенне. І не толькі ў Ягонае, але і ў наша ўваскрасенне, уваскрасенне з грэху праз пакаянне – да ласкі Божай, уваскрасенне з духоўнай смерці – да вечнага жыцця...

Мы абавязаныя быць жывымі. Нехта, магчыма, мне запярэчыць: "Але ж мы пакуль што і так жывыя. Што ж яшчэ патрабуецца ад нас?" Ну так, мы – жывыя, як незагойная рана, як ускрыты нерв. Усё, што адбываецца вакол, ці то зневажае нас, ці то крыўдзіць. Мы так шмат хочам ад гэтага жыцця... Ці не зашмат жа нам трэба ад яго?!

Нас узяло ў палон усё, што адбываецца вакол. Мы і не заўважаем, як робімся рабамі замшэлых ідэй, рабамі дабрабыту, якога нам усё не хапае, рабамі пустых паліц у крамах і запоўненых даверху нашых кладовак. Нам усё мала, мала і мала. І забываемся, што жывём мы зусім не ў тэатры, дзе любоў і нянавісць – усяго толькі ролі, якія іграюць іншыя, а мы ім пляскаем у ладкі. Жывём не ў кінафільме, дзе перамагаюць або паміраюць акцёры. Мы – дзеці Бога і жывём на сваёй зямлі, якую нам вызначыў Ён, і кожны з нас адказвае за свой лёс, за лёс нашых дзяцей, за лёс Бацькаўшчыны.

Хрыстос уваскрос! Па ўсёй зямлі нясуць званы гэтую радасную вестку. Хрыстос уваскрос! – паўтараюць тысячы сэрцаў... Хрыстос уваскрос! Уваскрэсні ж і ты, чалавек, з грэху, са злосці, з нянавісці. Уваскрэсні для жыцця, у якім галоўнае месца будзе адведзена дабрыні і любові. Уваскрэсні сам, памажы ўваскрэснуць брату свайму...

Страшныя пакуты на дарозе крыжовай. Страшныя, прабітыя цвікамі рукі і ногі. Страшныя насмешкі... Але в о с ь п е р а м о г а – УВАСКРАСЕННЕ. І ўсё адышло ў нябыт. Засталася толькі радасць.

Кожны раз з амбону у касцёле, на вуліцы, размаўляючы з вамі, думаючы пра ваш лёс, гледзячы на вас, слухаючы вашы беды і крыўды, бачу пакутную, з цяжкім крыжам Беларусь. Бачу яе прабітыя рукі, скрываўленае сэрца, чую і нядобрыя насмешкі, ад якіх горка і крыўдна. Але сёння бачу і іншае, тое, у што не вераць альбо не хочуць паверыць многія, – бачу тваё ўваскрасенне, Беларуская зямля.


«ГОЛАС ДУШЫ»

ВЫДАНЬНЕ МЕРСКАГА РЫМА-КАТАЛІЦКАГА КАСЬЦЕЛА

Наш адрас: 211930, г. Мёры, в. Паштовая, 11. Тэл. 2-18-36. Газета надрукавана ў Наваполацкай узбуйнёнай друкарні.

Рэдактар а. У. ПЯТРАЙЦІС

Тыраж 500 экз. Заказ 1140.


Сёньня ва ўсім каталіцкім сьвеце радуюцца сэрцы вернікаў: Хрыстос уваскрос!

Сёньня да нас прыйшло доўгачаканае сьвята. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што яно нават у сэрцы нашых няверуючых братоў і сясьцёр прынесла тое пачуцьцё сьвяточнай радасьці, якое цяжка выказаць словамі...

Мы пакланяемся і любім Жывога Уваскрослага Бога. Мы молімся, сьпяваем песьні і псалмы Яму, які не збаяўся пакутаў, сьмерці дзеля нашага выратаваньня. Мы ідзем за Ім, які стаў ахвярай дзеля ўзнаўленьня праўды. Ён вядзе нас да выратаваньня. Менавіта таму і мы абавязаны быць жывымі ў лепшым сэнсе гэтага слова: быць сьветлымі ў сваіх памкненьнях, справядлівымі да іншых, мы павінны любіць праўду і жыць праўдай. Бо толькі для гэткіх людзей на-

...лы зрэагавалі на вестку вельмі неспадзявана. Не радасьць і шчасьце адчулі яны, не жаданьне падзяліцца вялікай радасьцю з другімі, а найперш пайшлі правяраць магілу. І толькі пасьля таго, як уваскрэсеньне засьведчылі другія людзі, якім шчасьціла быць сьведкамі гэтай падзеі, толькі тады і апосталы, Ягоныя вучні, паверылі і перапоўніліся радасьцю.

Сёньня ж мы без страху і недаверу сустракаем дзень пакутаў Хрыста, таму што верым у Ягонае зь мёртвых паўстаньне. І не толькі ў Ягонае, але і ў наша ўваскрэсеньне, уваскрэсеньне з грэху праз пакаяньне — да ласкі Божай, уваскрэсеньне з духоўнай сьмерці — да вечнага жыцьця...

Мы абавязаныя быць жывымі. Нехта, магчыма, мне запярэчыць: «Але ж мы пакуль

...чыў Ён, і кожны з нас адказвае сам за свой лёс, за лёс нашых дзяцей, за лёс Бацькаўшчыны.

Хрыстос уваскрос! Па ўсёй зямлі нясуць званы гэтую радасную вестку. Хрыстос уваскрос! — паўтараюць тысячы сэрцаў... Хрыстос уваскрос! Уваскрэсьні ж і ты, чалавек, з грэху, са злосьці,

*а. У. Пятрайціс*

зь нянавісьці. Уваскрэсьні для жыцьця, у якім галоўнае месца будзе адведзена дабрыні і любові. Уваскрэсьні сам, па-

Бачу тваё ўваскрэсеньне

# Незвычайныя рэкалекцыі

**31 сакавіка, 1 і 2 красавіка ў парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску адбыліся велікапосныя рэкалекцыі, якія правёў канцлер дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч.**

**Часлава Туркова**

Вельмі цікава ён вучыў нас, як цаніць час жыцця, як шукаць дарогу да Езуса і крочыць па жыцці з Езусам у сэрцы. Ксёндз Віктар і вернікі парафіі, а таксама дзеці, якія наведваюць заняткі сястры-катэхеткі Крысціяны, былі ўражаныя, як па-майстэрску бацькі і моладзь паказалі чарговую тэатральную пастаноўку пасля велікапосных разважанняў. Гэта была незвычайная пастаноўка тэатральнай групы, якая заснавана пры парафіі (11 асобаў) пад кіраўніцтвам сястры Крысціяны.



Першай пастаноўкай стала пантаміма "Рукі" – пра розны выбар у жыцці чалавека. Падчас жа Вялікага посту гледачы з новай сілай адчулі знаёмую праўду Божай чалавечнасці Езуса, перажылі боль, які ўключае ў сябе пакута падчас Крыжовага шляху. Спалучэнне пластыкі акцёраў, гуку, святла, музыкі нікога не пакінула абыякавым.

Незвычайна, бо ўпершыню гледачы ўбачылі пастаноўку тэатра ценяў. Вядома, што тэатр ценяў як форма візуальнага мастацтва нарадзіўся ў Кітаі 1700 гадоў таму назад. Тут выкарыстоўваюцца вялікі паўпразрысты экран, святло і марыянеткі. У наш час замест марыянетак часта практыкуюцца гнуткасць і пластыка цела. Цягнецца пастаноўка не больш за 15 хвілін. А рыхтавалі яе на працягу паўтара месяца. Задзейнічалі шмат асобаў. Пётр Глот падрыхтаваў канструкцыю



сцэны і крыжы. Рэквізіт, касцюмы, сцэнаграфія – праца с. Крысціяны. Музычнае афармленне зрабіў Алег Рудзько, ён жа сыграў і галоўную ролю, жыў на сцэне ў ролі Пана Езуса.

Кожны акцёр шчыра, адказна і пераканаўча сыграў сваю ролю. Вернікі і святары бачылі і адчувалі страшэнны боль Езуса. Святло і цемра, гук ад біцця плёткамі, укрыжаванне – самы пакутлівы спосаб смерці, слёзы на тварах гледачоў...

Эмоцыі ўплываюць на духоўны стан людзей. Зроблены паспяховы ўклад у развіццё касцельнага тэатра, такая форма больш знаёмая ў Польшчы. Добры прыклад заўсёды нясе пазітыў і варты развіцця, а творчае супрацоўніцтва аднадумцаў заўжды спрыяе поспеху.

# Легіянеры Глыбоцкай курыі аднавілі свае абяцанні



**1 красавіка 2017 года ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім адбыўся ўрачысты штогадовы сход легіянераў Марыі "Acies". Амаль 50 чальцоў Легіёна, актыўных і дапаможных, узнасілі свае малітвы ў святыні.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Глыбоцкая курыя "Маці Божай Балеснай" была заснавана 15 верасня 2007 года, і ў яе склад уваходзяць сем прэзідыумаў. Гэта легіянеры з Глыбокага і Докшыц, Верхнядзвінска і Ахрэмаўцаў, Дунілавічаў, Дзеркаўшчыны і Сітцаў.

"Acies" – лацінскае слова. Так называлася войска ў баявым стане, і гэта назва добра падыходзіць да азначэння цырымоніі, падчас якой легіянеры збіраюцца разам і аднаўляюць прысягу на вернасць Дзеве Марыі, Каралеве Легіёна, каб атрымаць ад Яе сілу і блаславенне на далейшую барацьбу супраць сілы зла.

На самым пачатку кс. Яўген Міхайлаў, які з'яўляецца духоўным апекуном глыбоцкіх "воінаў Марыі", запрасіў да малітвы не фармальнай і абавязковай, але добраахвотнай і свядомай, каб словы прысягі вымаўлялі са свайго сэрца. Святар узгадаў, што "Acies" – гэта асабістае і калектыўнае пацвярджэнне вернасці Легіёну.

Пасля агульнай малітвы Легіёну адбылося аднаўленне прысягі. Кожны легіянер падыходзіў да алтара і,





паклаўшы руку на сцяг Легіёну, прамаўляў асабістае прысвячэнне: "Я цалкам духам Твой, Каралева і Маці мая, і ўсё, што я маю, належыць Табе".

Падчас гаміліі, якую прамовіў кс. Аляксандр Грыцкевіч з Верхнядзвінска, былі закранутыя тэмы малітвы і апостальства як двух галоўных кірункаў служэння легіянера. Святар прывёў уласны прыклад дзейнасці малітвы ў жыцці. "У сучасным свеце вельмі цяжка евангелізаваць, а асабліва свецкім. Таму апостальскай евангелізацыяй можа быць Ваша малітва, чытанне Слова Божага, але не толькі ў касцёле ці дома, але і на працы, падчас адпачынку. Не трэба саромецца іншых, хто і як паглядзіць ці падумае. Магчыма, дзякуючы Вашаму малітоўнаму прыкладу хаця б адзін чалавек зменіць сваё жыццё", – звярнуў увагу святар.

На заканчэнне Эўхарыстыі адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і малітва Вяночкам да Божай Міласэрнасці. Пасля чаго ўсіх легіянераў запрасілі на пачастунак, калі супольна можна было абмеркаваць розныя пытанні.

Па словах старшыні курыі Анатоля Цырука, легіянеры з Глыбокага два тыдні таму наведалі парафію ва Ушачах, дзе прэзентавалі сваю дзейнасць, распавялі пра служэнне і заахвоцілі да ўтварэння такой супольнасці. Легіянер спадзяецца, што і ў такой маленькай парафіі знойдуцца адважныя вернікі, якія прымуць прысягу і станудь "воінамі Марыі".

# Нататкі місіянера. Праца ў Андах

**Летнія вакацыі пачынаюцца ў перуанскіх дзяцей перад святам Божага Нараджэння і працягваюцца да пачатку сакавіка. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо калі ў Еўропе зіма, то ў Перу – лета: людзі ходзяць на пляж, купаюцца ў акіяне. Снежань, студзень, люты – гэта самыя цёплыя месяцы, якія называюцца летам.**

**кс. Ежы Майка**



Ад мая да верасня ў Перу пануюць халады і насельніцтва вельмі церпіць ад гэтага. Тэмпература прыкладна каля 15 градусаў цяпла. Для нас такія "халады" незразумелыя і часам смешныя, але патрэбна ўлічваць, што перуанскія хаты не маюць ацяплення, а вільготнасць можа дасягаць да 90%. Перуанцы не маюць цёплых коўдраў і пуховых пярын, уначы накрываюцца тонкімі пакрываламі.

У маёй мясцовасці, якая знаходзіцца на ўсходнім баку Андаў, ёсць пара дажджлівая (зіма) і пара звычайная (лета). Тэмпература ўдзень у сярэднім каля +22 градусаў, уначы – +17.

Вакацыі не толькі бываюць у дзяцей. Законныя сёстры, якія выкладаюць у школе, таксама маюць адпачынак і выязджаюць у Ліму. Калі я застаюся адзін, то апрача асноўных абавязкаў ксяндза мушу яшчэ займацца рознымі гаспадарчымі справамі: гатаваць ежу, прыбіраць.

Аднойчы на вячэрняй Імшы да мяне завітала мая парафіянка – сеньёра Марыя Понсэ, якая рэгулярна наведвае касцёл. Падчас чытання Евангелля і малітвы вернікаў яна паспявала прывітацца і пацалавацца з іншымі парафіянкамі. Сеньёра пацікавілася, як я спраўляюся без манахінь, і паабяцала прыносіць ежу на абед. Я нават і не разлічваў, што перуанцы мне так будуць дапамагаць, як парафіяне ў Беларусі! Ва Ушачах, калі я аднойчы страціў прытомнасць у касцёле падчас адмаўлення ружанца, некаторыя сем'і пачалі апекавацца мной – прыносіць абеды, прыбіраць на плябаніі.

Мая парафіянка сеньёра Марыя споўніла сваё абяцанне і на наступны дзень прынесла абед: вялікую міску рысу з соусам ракота і маленькі кавалак курынага мяса. Толькі я збіраўся падзякаваць жанчыне, як яна паабяцала і ў наступны дзень прынесці мне абед. І так, напэўна, пасля чацвёртага абеду сеньёра запыталася ў мяне, ці магу я ёй падараваць невялікі мяшочак урадлівай глебы з сада каля плябаніі, дзе я рабіў перапланіроўку кожны дзень. "Нешта тут, мабыць, не так!" – мільганула тады ў мяне думка. Нам некалі на курсах місіянераў у Іспаніі апавядалі, што ў індзейскім свеце няма такога, каб даваць бескарысна. Нас папярэджвалі, што патрэбна быць вельмі асцярожнымі з падарункамі ад перуанцаў. Калі мая парафіянка прыносіла мне ежу, то яна не проста клапацілася пра мяне, як гэта рабілі беларусы ці палякі, а чакала нейкай выгады. "Але ж няхай сабе жанчына возьме гэты мяшок зямлі. У Перу паўсюдна горы, добрай глебы зусім мала" – падумаў я.

З адпачынку вярнуліся сёстры і мая парафіянка перастала прыходзіць да мяне і прыносіць абеды. Але праз некалькі дзён да плябаніі пад'ехаў вялікі трактар, каб вывезці ўсю нашу глебу парафіянцы на агарод... "Ці можа мне ксёндз падараваць мяшочак глебы", – успамінаў я словы парафіянкі Марыі Понсэ.

Менавіта такі жыццёвы прыклад натхніў мяне перачытаць усе тыя інструкцыі і правілы паводзін "у дзікіх краях", якія нам чыталі падчас курсаў будучых місіянераў.

*Пераклала на беларускую мову* ***Наталля Мізярска***



*Звон над прыродай*

# Яго Голас

**Хутка прыйдзе самае вялікае хрысціянскае свята, якое нельга да канца зразумець, але пры жаданні можна добра адчуць.**

**Аксана Нядзвецкая**

Шчыра кажучы, у гэтым годзе крыху баялася, што Пасха будзе для мяне святам фармальным, пройдзе і не пакіне слядоў у душы, не прынясе аднаўлення, шчырай радасці, новых памкненняў, як бывала раней, у юнацтве, калі хапала часу і сіл на пост, на малітву, на Святое Пісанне, на касцельныя сустрэчы і штодзённую Імшу. Тады жыла сама для сябе, сама планавала час, сама шукала свой шлях, рабіла памылкі і (не сама, канечне, упэўнена, што не сама) выпраўляла іх.

Зараз мне 32 гады, замужам, маю чацвёра цудоўных дзяцей і зусім не маю вольнага часу. Усё распланавана: раніцай сабраць у школу адну дачку, потым адвесці ў садок другую і трэцюю, зрабіць урокі з сынам, які ходзіць на другую змену, адправіць яго ў школу і сустрэць дачку, заняткі ў якой ужо скончыліся, потым завесці яе на гуртох па маляванні, забраць з садка малодшых, прыйсці дамоў, а там свае абавязкі: прыбраць, прыгатаваць ежу, памыць посуд, падрыхтавацца да наступнага дня, каб заўтра зноў – сабраць, адвесці, прыбраць, прыгатаваць. І гэта яшчэ першы год, калі мне лягчэй, бо няма зусім маленькіх дзяцей і не чакаю папаўнення, але штосьці з гэтага абавязкова прысутнічала першыя дзесяць гадоў майго сямейнага жыцця. Тады трэба было рабіць амаль тое ж самае, але быць прывязанай да сцэнаў кватэры маленькім бездапаможным дзіцяткам, якое не хацела заставацца ні з кім, акрамя маці. Схадзіць кудынебудзь адной было практычна нерэальна. Трэба ці браць старэйшых дзяцей з сабой, якія таксама яшчэ малыя, бо розніца паміж дзецьмі – два гады, ці ісці з самым меншым, бо тату з малымі дзецьмі, калі іх больш за два і ёсць хаця б адзін груднічок, справіцца сапраўды цяжэй, чым маці.

> **"Я рабіла свой адзіны крок насустрач, астатнія крокі Бог рабіў за мяне"**

Гэта ўсё я пішу не для таго, каб расказаць, як цяжка быць шматдзетнай маці. Калі б я пісала пра гэта, у мяне ўсё роўна атрымаўся б артыкул, як цікава, цудоўна і непаўторна быць маці чатырох дзяцей. Больш адказна, але і больш шчаслівa, складана, і з кожным новым чалавечкам у сям'і – прасцей і больш зразумела. Гэта ўсё напісана, каб распавесці, як цяжка бывае знайсці час на рэчы, якія любіш: кіно, літаратура, напрыклад, што лічацца неабходнымі ў сучасным жыцці. Маю на ўвазе прафесійны рост, кар'еру. І галоўнае – як знайсці час на рэчы, патрэбныя табе як паветра, як вада, як хлеб штодзённы.

Мінімальнае наведванне касцёла, але, заўважу, кожны тыдзень і абавязковыя святы, гэта рэальна, калі сапраўды хочаш, частыя спазненні на святую Імшу і думкі пра сваё, скарочаныя малітвы, перарывістыя і паспешныя, ніякіх дадатковых мерапрыемстваў – рэкалекцый, адарацый, прагляду фільмаў, толькі самае неабходнае. І так дзесяць гадоў. Часам здавалася, што голас Бога ў маім жыцці стаў цішэйшым, а адносіны мае да яго – добрай звычкай, аўтаматычным выкананнем мінімуму каталічкі, якая лічыць сябе сапраўднай верніцай.

Але паколькі мінімум выконваўся, жаданне быць з Панам Богам і ісці шляхам, які Ён для мяне перадвызначыў, было. Я рабіла свой адзіны крок насустрач, астатнія крокі Ён рабіў за мяне.

І голас Яго гучаў у маім



жыцці звонкім плачам дзіцяці, упэўненымі словамі любові і падтрымкі з боку майго мужа, шэптам малітвы маёй бабулі, якая пранесла веру праз усё жыццё і адышла да Пана ў Вялікую Пятніцу два гады таму, а 15.10, калі ўся сям'я малілася Вяночкам да Божай Міласэрнасці побач з ёю. Звінеў званамі касцельных вежаў, спяваў замест таго мужчыны з касцельнага хору "Ты за нас цярпеў ад ранаў..." і пранізваў душу пералівамі скрыпкі братафранцішканіна падчас адной Пасхальнай Вігіліі. І невядома, як яшчэ загучыць Яго голас у маім жыцці, але абавязкова загучыць! Пранізліва і тонка ўскалыхне душу, абудзіць, адновіць, падтрымае. З мяне толькі – першы крок.

# Анёлак са слоіка з-пад гарчыцы, або Як спячы пасхальнае ягнятка?

**Сястра Крысціяна Венгерска працуе ў Беларусі ўжо два з паловай гады. Як яна сама прызнаецца, працаваць тут хацела даўно. Мела нейкае ўнутранае перакананне, што варта прыехаць у Беларусь. Цяпер працуе катэхеткай і вядзе гурток у катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*



**– Сястра Крысціяна, што для Вас значыць катэхеза?**

– Дзяцей я вельмі люблю. Калі б нават мне давялося займацца чымсьці іншым, прызнаюся, я была б проста нешчаслівая. У свой час у Польшчы мне даводзілася праводзіць заняткі рэлігіі па 34 гадзіны ў тыдзень. Гэта вельмі шмат. Але за тое цяпер у мяне шмат знаёмых і багаты вопыт.

**– Дазвольце спытаць, як Вы ўжываецеся з беларускім акружэннем? Ці няма адчування, што Вы тут у гасцях, што Вам трэба прыкладаць намаганні, каб адчуваць сябе тут камфортна?**

– Напачатку, калі я толькі прыехала ў Беларусь, мне было вельмі складана. Я ані слова не разумела, што мне кажуць людзі, і гэта пры тым, што з рускай мовай была знаёмая са школы. Часам прасіла пробашча, каб мне штосьці пераклаў. А цяпер усё гэта за мной. Людзі вельмі адкрытыя, не толькі тыя, што ў касцёле. Але проста на вуліцы, калі стаю на прыпынку, падыходзяць цікавяцца, размаўляюць. У мяне толькі прыемныя ўражанні ад Беларусі!

**– А як Вам білінгвізм? Спраўляецеся?**

– А беларускую мову я люблю больш, чым рускую. І вельмі камфортна сябе адчуваю, калі гутарка ідзе па-беларуску. Можа, гэта ў крыві недзе? Мая мама родам з-пад Гродна. Нарадзілася ў Міжэрычах.

**– Ведаю, што, апрача катэхезы, Вы таксама займаецеся з дзеткамі і ведзяце гурток.**

– Так, па суботах пры парафіі мы праводзім заняткі па аплікацыях, робім фігуркі анёлкаў, малюем. Карацей, развіваем таленты. Усяго на гэтыя заняткі, апрача катэхезы, прыходзяць 22 дзіцяці. Вось, напрыклад, які ў нас атрымаўся анёлак са слоіка з-пад гарчыцы. А вось гэта дзеткі самі зрабілі такое мілае птушаня *(сястра паказвае дзіцячыя вырабы)*. На Вялікдзень ужо гатовыя паштоўкі і велікодныя яйкі. Хочацца адзначыць ва ўсім гэтым таксама ролю бацькоў. Яны вельмі актыўныя, заўсёды мне дапамагаюць штосьці арганізаваць. І я рада, што, прыходзячы сюды, у касцёл, яны разам са сваімі дзецьмі ствараюць сапраўдную супольнасць.

**– Што вы робіце з гэтымі вырабамі?**

– Некаторыя пакідаем сабе ў класе. А іншыя прадаём парафіянам. Праводзім штосьці кшталту кірмашу. Атрыманыя грошы пазней выкарыстоўваем, каб арганізаваць дзеткам цікавую паездку ці экскурсію.

**– Я меў шчасце пакаштаваць тое, што Вы выпякаеце на парафіяльны кірмаш. Прызнаюся, што пад уражаннем ад Вашых кулінарных здольнасцяў. Падзяліцеся, калі ласка, якім-небудзь рэцэптам з нашымі чытачамі?**

– Я сама не вялікі спецыяліст у кулінарыі, але ведаю, як спячы пасхальнае ягнятка на велікодны стол. Калі ўсё правільна зрабіць, то ад гэтага ласунку за вушы не адцягнеш. На парафіяльны кірмаш мы спяклі іх разам з кс. Генадзем аж 36 штук. Такім чынам, неабходна падрыхтаваць адзін натуральны ёгурт 150 г., 300 г цукру, 2 яйкі, палову пакеціка разрыхляльніка цеста, 2 сталовыя лыжкі алею, 500 г мукі і адзін пакецік ванільнага цукру. Як бачыце, усе інгрэдыенты цалкам натуральныя. Напачатку трэба аддзяліць бялок ад жаўтка і збіць яго міксерам, дадаць туды цукар, потым ванільны цукар, жаўток, алей, ёгурт, муку і разрыхляльнік цеста. Гэта ўсё размяшаць міксерам, і ў выпадку завялікай цвёрдасці цеста дадаць крыху малака. Атрыманае цеста заліваем у форму. Яно па сваёй кансістэнцыі павінна быць як смятана. Выпякаем баранчыка ў духоўцы пры тэмпературы 180°С на працягу паўгадзіны, затым змяншаем тэмпературу да 150°С і выпякаем яшчэ 15 хвілін. Гатоўнасць выпечкі можна праверыць, крыху праткнуўшы печыва пруцікам. Калі печыва цвёрдае, значыць ласунак гатовы. Ну і, натуральна, калі няма дома формы для пасхальнага ягнятка, можна ўжыць любую іншую, напрыклад, для кексаў.

**– Я бачу, што ягнятка не проста спечанае, але і пафарбаванае.**

– Так, сапраўды, печыва можна пакрыць глазурай. Яно гатуецца вельмі проста. Бяром цукровую пудру, размешваем на вока з малаком – і глазура гатовая. Пэндзлікам пакрываем печыва, можна яшчэ пасыпаць яго какосавай стружкай.

**– Сястра Крысціяна, вялікі дзякуй Вам за Вашу працу і Ваш аптымізм! Колькі Вас ведаю, усмешка і радасць не сходзяць з Вашага твару. Жадаю Вам поспехаў і шчасця ў Вашым манаскім пакліканні. А Беларусь няхай Вас толькі радуе!**

**P.S.** Пасхальнае ягнятка з інтэрв'ю павандравала са мной дамоў у якасці падарунка. Карыстаючыся магчымасцю, хачу яшчэ раз пацвердзіць, што рэцэпт с. Крысціяны сапраўды вельмі добры. Раю нашым чытачам поспеху ў пасхальнай кулінарыі.



# Копія карціны "Аршанская бітва" знаходзіцца ў рэкалекцыйным доме ў Оршы

**У рэкалекцыйным доме пры парафіі святога Юзафа ў Оршы ёсць копія карціны "Аршанская бітва". Знаходзіцца яна тут больш за дваццаць гадоў.**

**Зміцер Лупач**

– Яна з даўніх, з дзевяностых гадоў тут знаходзіцца. Гэта копія карціны, якая ёсць у варшаўскім музеі. Часта экскурсіі прыязджаюць, яны хочуць яе ўбачыць, – кажа айцец Аляксандр Жарнасек, які з'яўляецца пробашчам парафіі святога Юзафа.

Сам арыгінал карціны знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. Ён большы за аршанскую копію, карціна мае 1 м 65 см вышыні і 2 м 60 см шырыні. Напісана яна адразу пасля бітвы, паміж 1520 і 1534 гадамі. Падрабязнасці ў аднаўленні дэталей паказваюць, што мастак сам непасрэдна ўдзельнічаў у гэтай бітве. Аўтарам лічыцца нямецкі мастак Ганс Крэль, хаця на афіцыйным узроўні яго аўтарства не даказана.

Бітва пад Оршай паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і Вялікага Княства Маскоўскага адбылася 8 верасня 1514 года і закончылася перамогай войска Вялікага Княства Літоўскага.

На пытанне, ці ведаюць сучасныя аршанцы пра падзеі пяцісотгадовай даўніны, айцец Аляксандр адказаў: "Ведаюць, канешне. Хто хоць трохі нешта чытае, хто нечым цікавіцца".

Святар лічыць, што ў гісторыі Оршы было шмат драматычных момантаў: "Аршанская бітва толькі адзін з іх. Тут праходзілі амаль усе войны, тут турма НКУС была. І тая турма, куды я зараз хаджу як святар, былая перасыльная турма НКУС. Пра гэта людзі, можа, менш ведаюць, што большасць нашых асуджаных святароў, уключаючы святой памяці кардынала Казіміра Свёнтака, ішлі праз Оршу. Калі гаварыць пра Глыбоччыну, то гэта ксяндзы Францкевіч, Люцыян Паўлік, марыяне, яны ўсе ішлі праз Оршу, а потым ужо этапам у сталінскія лагеры".



Не менш драматычны лёс і самога касцёла святога Юзафа. Цяперашні будынак касцёла быў узведзены напрыканцы XVIII стагоддзя. У 1870 годзе на загад царскіх уладаў разабралі вежы. Храм дзейнічаў да 30-х гадоў ХХ стагоддзя. У 1937 годзе ён быў зачынены і перароблены пад Дом культуры. У 1989 годзе будынак зноў перадалі вернікам, яго потым адрэстаўравалі.

# ВАДЗІЦЕЛЬ ці КІРОЎЦА? Як лепш сказаць па-беларуску?

**Апошнія гадоў дзесяць – пятнаццаць мы ўсё часцей чуем слова *кіроўца* як сінонім да назоўніка *вадзіцель*. І ўсё часцей бачым згаданую лексему на старонках перыядычнага друку. Але што ў большай ступені адлюстроўвае нацыянальную адметнасць нашай мовы, якую лексічную адзінку варта ўжываць у першую чаргу: *кіроўца* ці *вадзіцель*? Паспрабуем разабрацца.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Сёння на старонках перыядычнага друку "агульнасавецкі стандарт" *вадзіцель* насамрэч імкліва выцясняецца адметным беларускім назоўнікам ***кіроўца***. Выдатны знаўца культуры роднай мовы Алесь Каўрус слушна сцвярджае, што "назоўнік *кіроўца* заняў сваё месца ў словаўтваральным гняздзе, далучаецца да шэрагу назоўнікаў, якія ўтвораны з дапамогай фарманта *-ца: прамоўца, суразмоўца, выступоўца* і пад. Нават калі гэта запазычанне, яно не мае адваротных рысаў польскай мовы" (Каўрус А. Да свайго слова. Пытанні культуры мовы. – Мінск, 2011. – С. 19). Тут важна ўсвядоміць адрозненне ў спосабе мыслення паміж носьбітамі беларускай і рускай моў і культур. Для прадстаўніка рускай культуры абсалютна нармальна гучаць канструкцыі *"водить автомобиль", "водить грузовик", "водить машину"*. Таму і адпаведны назоўнік – *водитель* – бачыцца цалкам лагічным, утвораны паводле ўсіх моўных законаў. У нас жа, носьбітаў беларускай культуры, на ўзроўні падсвядомасці замацаванае разуменне, што аўтамабілем (машынай, грузавіком) можна толькі *кіраваць*. Дзеяслоў жа *вадзіць* мае ў нас зусім іншае значэнне: дапамагаць ісці (*вадзіць дзіця за руку*), хадзіць з кім-небудзь і паказваць што-небудзь *(вадзілі госця ў тэатр)*, рухаць чым-небудзь па паверхні чаго-небудзь *(вадзіць алоўкам па паперы)* або ўжываецца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў кшталту *вадзіць за нос*.

Выходзячы з таго, што любым транспартным сродкам можна толькі *кіраваць* (а не *вадзіць* яго), у беларускай мове і замацаваўся назоўнік **кіроўца**. Адметна, што адзінае дзяржаўнае штодзённае беларускамоўнае выданне газета "Звязда" даўно ўжо аддае перавагу менавіта гэтаму слову. Напрыклад: *За рулём ... знаходзіўся 40-гадовы мужчына, які не меў пасведчання **кіроўцы**. Калі дзверы адчыніліся і 36-гадовая пасажырка выпала з кабіны, **кіроўца** спужаўся і ўцёк* (25.01.11); ***Кіроўца** "Жыгулёў" заснуў у салоне свайго аўто* (Загаловак, 29.01.11); *У Глыбоцкім раёне з'явіўся **"гора-кіроўца"**... Нядаўна зноў асудзілі гэтага **гора-кіроўцу**, які раней ужо тры разы адказваў перад законам за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане* (30.06.11); *Прафсаюзы Францыі заклікалі больш за 600 тысяч **кіроўцаў-прафесіяналаў** прыняць удзел у распачатым у ноч на панядзелак агульнанацыянальным страйку* (28.06.11); *У Мінску ў ноч з 8 на 9 сакавіка пасля ДТЗ **жанчына-кіроўца** ўцякла з месца здарэння...* (10.03.12). *Школа юных **кіроўцаў*** (Загаловак, 10.09.14); ***Кіроўца** парваў пратакол* (Загаловак, 5.05.15); ***Кіроўца**, трымайся за руль!* (Загаловак, 1.03.17). Як бачна, назоўнік **кіроўца** ў кантэксце не толькі выразна адлюстроўвае якраз беларускую матывацыйную базу (*кіраваць* транспартным сродкам, а не *вадзіць*), але і можа ўжывацца з прыдаткам, пашыраючы тым самым лексічныя рэсурсы мовы. Дарэчы, і акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012) таксама падае згаданы назоўнік як нарматыўны (с. 349).

Варта адзначыць, што цяпер у нашай мове назіраецца выразная тэндэнцыя да паступовага пашырэння падобных дэрыватаў. Усё часцей ужываюцца словы *бізнэсоўца, мітынгоўца, пратэстоўца, моўца* і інш.

Такім чынам, у беларускай мове варта выкарыстоўваць спалучэнні, напрыклад, ***кіроўца** таксі, **кіроўца** грузавіка* або ***кіроўца**-прафесіянал*, а не ўжываць у якасці асноўнага кампанента адваротны русізм *вадзіцель*.



# Святочны тэст на Вялікдзень

## Правер сябе ў новым тэсце і выяві, што ты ведаеш пра самае значнае хрысціянскае свята

**1** Вялікіпостпапярэднічае Вялікадню і распачынаецца ў Папяльцовую сераду. А ў які дзень у Каталіцкім Касцёле заканчваецца перыяд Вялікага посту?



**А.** У Пальмавую нядзелю
**Б.** У Велікодную нядзелю
**В.** У Вялікі чацвер

**2** Імша, якая адпраўляецца на Вялікдзень на світанні, называецца:



**А.** Пастэрка
**Б.** Рэзурэкцыя
**В.** Хрызма

**3** Які арнат апранае святар на свята Вялікадня?



**А.** Чырвоны
**Б.** Зялёны
**В.** Белы або залаты

**4** Што ў касцёле падчас Вялікага посту спяваецца замест "Аллелюя"?



**А.** Хвала табе, Слова Божае!
**Б.** Пан з вамі!
**В.** Гэта Баранак Божы!

**5** Велікоднае яйка сімвалізуе:



**А.** Уваскрасенне і вечнае жыццё
**Б.** Вялікую ахвяру Хрыста
**В.** Муку і цярпенне Езуса

**6** Куды пасля свайго ўваскрасення Езус паклікаў 11 вучняў?



**А.** У Ерусалім
**Б.** У Галілею на гару
**В.** У межы Цэзарэі Філіпавай

**7** Каму першаму з людзей з'явіўся ўваскрослы Езус?



**А.** Марыі Магдалене
**Б.** Апосталу Паўлу
**В.** Апосталу Пятру

**8** Хто з апосталаў не адразу паверыў у тое, што Езус уваскрос?



**А.** Тамаш
**Б.** Пётр
**В.** Юда

**9** З якой падзеяй яўрэі звязвалі свята Пасхі да прыходу Езуса?



**А.** Выйсце з Егіпта
**Б.** Заканчэнне сусветнага патопу
**В.** Заканчэнне будаўніцтва Ерусалімскай святыні

**10** Колькі дзён доўжыццавялікодны перыяд?



**А.** 50
**Б.** 7
**В.** 40

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Праверыць сябе можна паглядзеўшы правільныя адказы на старонцы 12**

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра віншуем усіх вас са Святам Уваскрасення Езуса Хрыста! Дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Часлава Кіжло** *(Шуневічы)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Кандрат Леановіч** *(Віцебск)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Людміла Варанёнак** *(Докшыцы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Аліна Гайлеўская** *(Леампалле)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Эмма Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Сушко Л.Б.** *(Докшыцы)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Данута Пачкоўская** *(Савуткі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Хрыстос уваскрос!**
**Сапраўды ўваскрос!**

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Каляндар на май

**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі. На працягу ўсяго месяца вернікі збіраюцца ў касцёлах, а таксама каля каплічак і прыдарожных фігураў Маці Божай, каб разам маліцца, просячы заступніцтва Марыі.**

**3 мая – успамін апосталаў Філіпа і Якуба.**

У пераліку апосталаў Філіп з'яўляецца пятым. Ён быў вучнем святога Яна Хрысціцеля і паходзіў з Бэтсаіды, што на Генісарэцкім возеры, дзе працаваў рыбаком. Там яго сустрэў Езус і паклікаў у супольнасць дванаццаці апосталаў. Пасля ўваскрасення Хрыста Філіп спачатку вёў місіянерскую дзейнасць у сябе на радзіме, а пазней накіраваўся ў Фрыгію (Малая Азія), дзе навярнуў і ахрысціў шмат паганцаў. Там каля 80 г. ва ўзросце 87 гадоў апостал прыняў мучаніцкую смерць: быў прыбіты да крыжа і закіданы камянямі.

Якуб Меншы (Малодшы) быў сынам Клеафаса і Марыі, сястры Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя крыніцы называюць яго таксама першым біскупам Ерусаліму. У 62 г. першасвятар Анна асудзіў Якуба на смерць, і апостала скінулі са сценаў святыні, пасля чаго яго дабіў нейкі гарбар. Рэліквіі абодвух святых спачываюць у Рыме, у базыліцы Дванаццаці Апосталаў. Святыя Філіп і Якуб лічацца апекунамі капялюшнікаў, крамнікаў, гарбароў.

**13 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.**

Сёлета прыпадае сотая гадавіна аб'яўленняў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Фаціме. Каталіцкі Касцёл у Беларусі адзначае юбілей 100-годдзя фацімскіх аб'яўленняў разам з паўсюдным Касцёлам, заклікаючы да навяртання.

У 1917 годзе ў невялікай вёсцы Фаціма, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францішку Марту, Жасінце Марту і Луцыі Душ Сантуш – аб'явілася прыгожая Панна, "Якая ззяла ярчэй за сонца". Гэта была Найсвяцейшая Панна Марыя. Багародзіца аб'яўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага аб'яўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, пераслед Касцёла і яго адраджэнне.



*Санктуарый Маці Божай Фацімскай у Шуміліне*

**14 мая – успамін св. Мацвея, апостала.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпце і Эфіопіі. Там ім былі здзейснены шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**16 мая – успамін св. Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.**

Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць "Апосталам Палесся" і "Пінскім апосталам". Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

**25 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**

Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з'яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у Дзеях Святых Апосталаў (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае названую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

**31 мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Святкаванне Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі мае сярэднявечнае паходжанне. Свята адзначалася францішканскім ордэнам яшчэ да 1263 года, калі яно было прапанавана св. Банавентурам. Дзякуючы ўплыву з боку францішканскага ордэна свята распаўсюджвалася, але афіцыйна зацверджана Касцёлам было толькі ў 1389 годзе па загадзе Папы Урбана VI.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Святая Рыта
## (1381-1457)
### Святая, якая спыніла вендэту

**"Лепш памерці прабачыўшы, чым жыць не прабачаючы" – так можна было б акрэсліць жыццёвае крэда незвычайнай дзяўчыны і жанчыны Маргарыты.**

Яе жыццё – гэта добры матэрыял для сучаснага фільма-меладрамы. І паверце, што ў зале не было б абыякавых і незацікаўленых. У такім фільме было б усё: прыгажуня і пачвара, трагічнае рашэнне бацькоў, няшчаснае каханне, вендэта, містыка – карацей кажучы, поўны набор.

Рыта – так назвалі маленькую дзяўчынку, каб адрозніць яе ад апякункі – святой Маргарыты. Яна нарадзілася праз год пасля смерці вялікай святой жанчыны Сярэднявечча Кацярыны Сіенскай. Пазней агіёграфы ўбачаць у гэтым Провід Божы.

Як часта здаралася ў тыя часы, Рыта сваё дарослае жыццё распачынае з выпрабавання: насуперак сваім памкненням быць манашкай, яна па волі бацькоў выходзіць замуж. Яе муж – чалавек жорсткі, каб нават не сказаць садыст – з яе жыцця ўчыніў сапраўднае пекла. Бог адарыў іх дзецьмі, двума сынамі-блізнятамі, якія па характары больш былі падобныя да бацькі, чым да богабаязнай маці. Муж Рыты загінуў так, як жыў: не ведаем, ці быў агрэсарам, ці абараняўся, але памёр у змаганні паміж рознымі кланамі. Рыта прабачыла яго забойцам і ўсю сваю духоўную сілу скіравала на тое, каб сыны адмовіліся ад помсты. Прасіла Бога: "Лепш забяры іх, але не дай праліцца крыві..." Яе малітвы былі пачутыя, і сыны памерлі ад нейкай заразлівай хваробы. Перад смерцю Бог даў ім ласку пакаяння і сілы прабачыць забойцам бацькі.

Аплакаўшы смерць сваіх сыноў, Рыта вырашае рэалізаваць мару маладосці і стукае ў брамы кляштара. Яе некалькі разоў не прымаюць, выдумваючы розныя прычыны, таксама абразліва падкрэсліваючы, што кляштар – гэта палац для дзеваў, а не прытулак для ўдоў. Сама Рыта прычыну адмовы бачыць у тым, што ў кляштары ёсць прадстаўнікі варажнечых родаў, а таксама чальцы сем'яў забойцаў мужа. Яна па-свойму разумее, як трэба вырашаць такія праблемы. Пакорліва абыходзіць усе дамы ў сваёй мясцовасці, заклікаючы да прымірэння. І дзіва, але людзі, стомленыя нянавісцю і пастаянным праліццём крыві, сапраўды прымірыліся і адмовіліся ад кроўнай помсты – вендэты.

У кляштары непісьменная Рыта выконвала найбольш простыя фізічныя працы. Але гэта не перашкаджала ёй весці глыбокае духоўнае жыццё. На абразах святая Рыта часта намалявааная з цернем у галаве, які з'яўляецца знакам яе любові да Хрыста і Яго пакутаў. Да сённяшняга дня святая Рыта лічыцца апякункай безнадзейных спраў і прыкладам рэалізацыі прабачэння як актыўнай жыццёвай пазіцыі, а не маладушным скарэннем перад сітуацыяй.

*Падрыхтаваў*
*а. Андрэй Сідаровіч,*
*марыянін з Росіцы*

# На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*, **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Эдвард Сінкевіч SCJ**.

**2 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка** *(Росіца)*, **кс. Андрэй Квяцінскі**.

**3 мая** – імяніны адзначаюць **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**, **кс. Аляксандр Амяльчэня**, **кс. Аляксандр Баран** *(Навалукомль)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Аляксандр Жарнасек** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Рагіня**, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **кс. Аляксандр Адамовіч**, **кс. Аляксандр Пятровіч**, **кс. Аляксандр Раманоўскі**, **кс. Аляксандр Рудзевіч**, **кс. Аляксандр Севасцьяновіч**, **кс. Аляксандр Баклажэц**, **кс. Аляксандр Лебядзевіч**, **кс. Альгірдас Паўлікас**, **кс. Аляксандр Сасноўскі**, **кс. Аляксандр Барыла**, **кс. Аляксандр Тарасевіч**, **кс. Алег Кудэрка**, **кс. Алег Канановіч**, **кс. Алег Жураўскі SDB**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*.

**5 мая** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Казімір Велікаселец**, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі.

**7 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Роўба CRL**, гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*.

**8 мая** – імяніны адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Краўчанка SDB**, **кс. Станіслаў Лабан**, **кс. Станіслаў Пытэль CSMA**, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv**, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC**, **кс. Станіслаў Вашкевіч**, **кс. Станіслаў Лугоўскі SDB**, **кс. Станіслаў Станеўскі CSSR**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*, **кс. Войцех Вальчына MSF**, **кс. Віталь Бандаронак OFMCap**, **кс. Людвік Станішэўскі**.

**9 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Агель SChP**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Вітэк SAC**, **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*.

**10 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Антоні Абухоўскі**, **кс. Валерый Спірыдон**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Пётр Кубіцкі** *(Талачын)*, **кс. Генадзь Рамашка SAC**.

**11 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юзаф Гэнза CSsR**.

**12 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Агель SChP**, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч**.

**13 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*, **кс. Пётр Марцінец**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Валянцін Станкевіч**, **кс. Збігнеў Драгула CSMA**, **кс. Ян Асіповіч SChP**.

**14 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Юзаф Пятушка MIC**, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Ежы Ноцунь SCJ** *(Барадзенічы)*.

**15 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшэль** *(Віцебск)*, **кс. Ігнат Санюта**, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*.

**16 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Урбан**, **кс. Дзмітрый Сядлецкі**; імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*, **кс. Андрэй Квяцінскі**, **кс. Андрэй Сіповіч**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Зянон Рамейка SCJ**, **а. Віталь Слука SChP**.

**17 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*, **кс. Ежы Грыцко ISCh**.

**18 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Паўлюкевіч**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксандр Рагіня**, **кс. Віктар Барысевіч OFMCap**, **кс. Багуслаў Вуйтовіч OFMConv**.

**19 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Шанчук**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **кс. Ігар Анісімаў**, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Павел Эйсмант**, **кс. Антоні Грэмза**, **кс. Ежы Ясевіч**, **кс. Ян Кузюк**, **кс. Яцэк Маркель CMF**, **кс. Віктар Мыслюк**, **кс. Ежы Павайба**.

**20 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Андрэй Квяцінскі**, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv**, **кс. Ян Залога**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*, **кс. Сяргей Ангур TChr**, **кс. Дзмітрый Лабкоў**, **кс. Артур Малафей**, **кс. Дзмітрый Несцер**, **кс. Ян Рушніцкі**, **кс. Дзяніс Шмыгін**.

**21 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Цэзары Міх**, **кс. Андрэй Роўба CRL**.

**22 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*, **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*.

**23 мая** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**.

**24 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксандр Баклажэц**, **кс. Сяргей Якімовіч**, **кс. Антоні Казлоўскі**, **кс. Леон Ладыш**, **кс. Казімір Мурава SDB**, **кс. Ян Рэйшэль**, **кс. Анатоль Захарэўскі**.

**25 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Васількевіч**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **кс. Андрэй Бурак**, **кс. Віталь Цыбульскі CSsR**.

**26 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Сымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Віталь Бяленік**, **кс. Віктар Санько**, **кс. Ян Этэль SCJ**, **кс. Гэнрык Яблонскі**, **кс. Андрэй Ядкоўскі**, **кс. Вячаслаў Матукевіч**, **кс. Станіслаў Пытэль CSMA**, **кс. Ян Раманоўскі**, **кс. Віктар Савіцкі**, **кс. Віталь Сідорка**, **кс. Дзмітрый Сядлецкі**, **кс. Юрый Жэгарын**.

**27 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Лісоўскі**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Ян Гавецкі**, **кс. Люцыян Радомскі**.

**28 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір-Тадэвуш Мараўскі OCD**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Валерый Аброшка**, **кс. Антоній Ханько**, **кс. Ян Коўш**, **кс. Павел Ствол**, **кс. Артур Вальчкевіч**, **кс. Андрэй Врублеўскі CSsR**, **кс. Андрэй Знашко**, **кс. Казімір Жэвалеўскі**.

**29 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*, **кс. Станіслаў Лабан**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Віталь Дабраловіч**, **кс. Юрый Ёдзік**, **кс. Ежы Кузьміч**, **кс. Ежы Левінскі**, **кс. Руслан Мазан**, **кс. Андрэй Пышынскі**, **кс. Ян Раманчук**, **кс. Вальдэмар Слота**, **кс. Павел Салабуда**, **кс. Яўген Учкуроніс**, **кс. Віталь Вайцяхоўскі**.

**30 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Мазюк CSsR**; імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*, **кс. Валерый Мазюк CSsR**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**, **кс. Адам Дынак**, **кс. Віктар Бочан CSsR**, **кс. Андрэй Лішко**, **кс. Чэслаў Паўлюкевіч**, **кс. Андрэй Радзевіч**, **кс. Павел Шанчук**.

**31 мая** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **кс. Адам Дынак**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, **кс. Францішак Кісель** *(Полацк)*, **а. Юрый Катовіч** *(Докшыцы)*, **кс. Аляксей Ляшко**, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч**, **кс. Пётр Пятрага**, **кс. Раман Цесляк CSsR** *(в. Парэчча)*, **кс. Гэнрык Яблонскі**, **кс. Рычард Якубец**, **кс. Тадэвуш Крыштопік**, **кс. Валерый Мазюк CSsR**, **кс. Станіслаў Садоўскі OFMConv**, **кс. Аляксандр Шэмет**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
*Ірына Радзевіч*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!
## Паважаны ксёндз Юрый Жаўняровіч!



*Сардэчна віншуем Вас з нагоды імянін. Шчыра жадаем дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, моцнага здароўя і багатага плёну на Божай ніве!*

*Дзякуем Вам за ахвярную працу, за чулае сэрца, за клопат і ўвагу да кожнага верніка парафіі. Хай здзейсняцца ўсе Вашыя задумы, планы, праекты і мары!*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа, в. Ахрэмаўцы (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!
## Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч!



*Віншуем Вас з нагоды Дня святара і са святам Вялікадня!*

***З малітвай да Бога, Хрыста-Уладара***
***Віншуем сардэчна свайго святара!***
***Ад чыстага сэрца здароўя жадаем,***
***Вас Духу Святому заўжды давяраем.***
***Хай сыдзе на Вас і асвятліць святлом,***
***Здароўе ўмацуе, сагрэе цяплом!***
***А Божую Маці мы будзем маліць,***
***Каб ласкай Хрыстовай святар мог служыць!***

*Жадаем поспехаў у Вашай нялёгкай працы і Божай дапамогі ва ўсіх Вашых марах, натхнення для далейшага плённага служэння Хрысту і Святому Касцёлу! Шчасці, Божа!*

***З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*23 красавіка святкуе імяніны наш былы пробашч **ксёндз Юрый Катовіч**.*

*Сардэчна віншуем Вас, ксёндз Юрый, і выказваем вялікую пашану і падзяку за працу ў нашай парафіі, за чулыя адносіны да парафіянаў, за прыклад любові да Бога і свайго бліжняга! Мы ўдзячныя Вам за ўсё, што Вы зрабілі для нас і Касцёла.*

*Жадаем Вам Божай ласкі, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцнага здароўя, дасягнення пастаўленых мэтаў. Няхай святы заступнік Юрый засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця!*

*Будзем заўсёды памятаць Вас у сваіх малітвах. Жадаем усяго найлепшага на новым месцы працы!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах***

## Хвала Хрысту!



*Віншуем з нагоды 10-годдзя святарства і 10-годдзя служэння ў нашай лучайскай парафіі шаноўнага **ксяндза-пробашча Мікалая Ліпскага** (8 красавіка). Дзякуем Богу, што надзяліў нашага святара талентам тварыць, упрыгожваць і арганізоўваць. Наш касцёл стаў асяродкам глыбокай пабожнасці і культуры.*

*Якія цудоўныя набажэнствы праводзяцца ў нашай святыні! Ладзяцца прыгожыя фэсты, пілігрымкі, і гэта заслуга нашага святара, у якога яшчэ шмат мараў і задум. Вельмі многа зроблена спраў па добраўпарадкаванні вакол святыні і на могілках.*

*Жадаем нашаму шаноўнаму пастыру Божага блаславення ва ўсіх рэлігійных і жыццёвых справах, а таксама добразычлівых хрысціянаў і спагады ад людзей.*

*Вялікі дзякуй бацькам за дапамогу ў працы і за сына-святара!*

***З малітвай да Бога Хрыста-Уладара***
***Віншуем сардэчна свайго святара!***
***Ад чыстага сэрца здароўя жадаем,***
***Вас Духу Святому заўжды давяраем!***
***Хай сыдзе на Вас і асвятліць святлом,***
***Здароўе ўмацуе, сагрэе цяплом!***
***А Божую Маці мы будзем маліць,***
***Каб ласкай Хрыстовай святар наш мог жыць!***
***Мы любім Вас, глыбока паважаем***
***І цэнім Ваша шчырае маленне.***
***Усяго-ўсяго найлепшага жадаем***
***І светлымі хай будуць Вашы дні служэння!***

***Удзячныя вернікі капліцы Божай Міласэрнасці, аг. Навасёлкі лучайскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Ваша Эксцэленцыя біскуп Алег Буткевіч, ксёндз-пробашч Станіслаў Мжыглуд, ксёндз Удадзімір Шыдлоўскі, ксёндз Адам Кватkoўскі, ксёндз Лешак Вітвіцкі, сёстры законныя!***
***Павіншаваць Вас хочам ад усёй душы і сэрца***
***Са светлым святам Уваскрасення Хрыста!***
***Няхай у гэты дзень лікуе Ваша сэрца***
***І радасцю напоўніца душа!***
***Няхай Бог блаславіць у дарозе***
***І шчасце, радасць будуць з Вамі назаўсёды!***

***З павагай і малітвай, вернікі дыяцэзіяльнага Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

## Хвала Хрысту!

*13 красавіка адзначае Дзень нараджэння паважаны **ксёндз Сяргей Сурыновіч**.*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз-пробашч, душэўнага спакою, здароўя, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, Хрыстовай любові. Хай кожны Ваш дзень будзе сонечны і шчаслівы!*

*Мы ўдзячныя Богу, што выбраў Вас з многіх і паслаў на наш шлях. Мы ўдзячныя Вашым бацькам за сына-святара. Дзякуем за цярплівасць да нас!*

***З павагай і любоўю, вернікі парафіі святога Юзафа капліцы ў аг. Друйск (Браслаўскі р-н)***

## Шаноўны ксёндз Сяргей Сурыновіч!

*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Жадаем духоўных і фізічных сіл, шчодрай Божай дапамогі, ажыццяўлення ўсіх Вашых задумаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі для Вас і Вашых родных!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці і радасці нашаму **а. Тадэвушу Кавальскаму** з нагоды дня нараджэння (11 красавіка).*

*Жадаем Вам, паважаны а. Тадэвуш, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога. Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы планы і задумы!*

*Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі на нашай зямлі. Дзякуем за Божае слова, за Ваша добрае сэрца, глыбокую веру, за аптымізм і любоў да людзей!*

***З пашанай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах***

## Хвала Хрысту!



*Выказваем шчырую ўдзячнасць **айцу-марыяніну Андрэю Сідаровічу**, які 24–26 сакавіка праводзіў у нашай парафіі рэкалекцыі – падрыхтоўваў вернікаў да свята Уваскрасення Пана.*

*Божае слова, якое прамаўляў да нас айцец Андрэй, стараннае тлумачэнне Евангелля з простымі жыццёвымі прыкладамі, малітва з прэзентацыяй падчас Крыжовага шляху асаблівым чынам кранулі нашыя сэрцы. Праведзеныя асобна канферэнцыі для жанчын і для мужчын дапамаглі многім змяніць погляд на жыццё, стаць больш цярплівымі, спагадлівымі і міласэрнымі да тых, хто знаходзіцца побач. Не засталіся без увагі айца Андрэя і малодшыя парафіяне. Святар расказаў дзецям пра Росіцу, пра блаславёных пакутнікаў а. Антонія Ляшчэвіча і а. Юрыя Кашыру, запрасіў іх разам з бацькамі наведаць Росіцкую святыню.*

*Жадаем Вам, айцец Андрэй, моцы Духа Святога ў душпастырскай дзейнасці. Няхай Уваскрослы Езус Хрыстус адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Маці Божая хай ахінае сваім плашчом! Запаленая ў Вашым сэрцы іскра паклікання няхай разгараецца полымем на доўгія гады святарскага служэння!*

*Віншуем Вас з надыходам свята Уваскрасення Пана!*

***Удзячныя вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўнаму **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды Дня ўстанаўлення Сакраманту Святарства і свята Уваскрасення Пана дасылаем самыя сардэчныя пажаданні! Няхай Хрыстус Уваскрослы – Збаўца Свету – адорыць Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем!*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў (Гродзенская дыяцэзія)***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з нагоды Дня святарства нашых дарагіх святароў: **пробашча парафіі Мікалая Ціхановіча, ксяндза Яўгена Міхайлава, ксяндза Івана Кароткіна, дыякана Алега Хмылко!***

*Жадаем шаноўным святарам Божага блаславення, шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, шчырай Велікоднай радасці! Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць за ўсё добрае, што Вы робіце на Божай ніве!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем святара!



*Паважанаму **ксяндзу Віктару Захарэўскаму** з нагоды Дня святара, Велікодных свят, а таксама надыходзячага юбілейнага Дня нараджэння (26 красавіка) перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, усмешкі на твары, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, безупыннай надзеі, радасці ад паклікання і Хрыстовай любові; каб кожны Ваш дзень быў сонечны і шчаслівы!*

*Мы ўдзячну Пану Богу, што выбраў Вас з многіх, а таксама за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара нашага касцёла.*

*Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за адданую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага Слова, за мудрыя казанні і за добрае сэрца.*

*Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы мары і задумы!*

***З вялікай павагай, любоўю і ўдзячнасцю малітоўны рух "Маці ў малітве" касцёл Святых Анёлаў Ахоўнікаў в. Раготна, Дзятлаўскі раён***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем з Днём святарства ўсіх святароў, якія вучылі нас пазнанню Божай любові і міласэрнасці!*

*Асаблівую ўдзячнасць вернікі выказваюць стваральніку нашай парафіі **ксяндзу Адаму Дынаку**! Ён дапамог расплюшчыць нашыя вочы, знявечаныя атэізмам, на пазнанне Бога, Яго праўду, міласэрнасць і дабрыню.*

*Назаўсёды ў сэрцах і думках парафіян застанецца былы пробашч парафіі **ксёндз Янiслаў Гарнацарык**. Гэта быў не толькі святар, духоўнік, дарадчык, але і вельмі таленавіты кіраўнік, гаспадар і будаўнік. Яго казанні падчас святой Імшы, сустрэчы па-за касцёлам былі напоўненыя цяплом і дабрынёй. Дзякуючы яго стараннямі наш касцёл стаў сапраўды вельмі прыгожым і ўтульным Божым домам. Мы шчыра дзякуем Богу, што падарыў нам такога святара. На жаль, стан здароўя не дазволіў яму радаваць нас сваім знаходжаннем у нашай парафіі.*

*Мы вельмі ўдзячныя Богу і за цяперашняга пробашча – **айца Браніслава Дашкевіча**. Гэта таксама святар, выбраны Богам.*

*Няхай Усемагутны Айцец, і Сын, і Дух Святы берагуць іх здароўе, падтрымліваюць ва ўсіх задумах і планах, натхняюць на новыя справы на карысць людзям і Святому Касцёлу.*

***Вернікі парафіі Наведзінаў Панны Марыі, г. Гарадок***

**Правільныя адказы на тэст, змешчаны на старонцы 9**

**1 – В, 2 – Б, 3 – В, 4 – А, 5 – А, 6 – Б, 7 – А, 8 – А, 9 – А, 10 – А**

# Ці можна прымусіць паспавядацца?

*"Хвала Хрысту!
Раней я гэтага не заўважала... А падчас сёлетніх велікапосных рэкалекцый кінулася ў вочы, як бацькі штурхаюць сваіх дзяцей да споведзі. Дарэчы, дзеці ўжо вялікія – 14-15 гадоў. Падкажыце, ці правільна гэта – прымушаць кагосьці ісці да споведзі, у тым ліку дзяцей?"*
*Вераніка*



**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Вераніка! Дзякуй за важнае пытанне, якое закранае некалькі аспектаў жыцця чалавечай асобы ў сямейным Касцёле, такіх, як вера, хрысціянскае выхаванне, прыклад уласнага жыцця, удзел у катэхізацыі, пачуццё ды ўсведамленне віны і граху, імкненне да святасці, маральная вартасць чыну. Пералічанае можна без сумневу разглядаць у якасці выклікаў сучаснасці як для душпастыраў, так і для свецкіх вернікаў, у першую чаргу бацькоў. Некаторыя аспекты закранём у адказе на пытанне.

## Сутнасць споведзі

Рэлігійныя практыкі не могуць стаць вынікам нейкага прымусу, але павінны быць свабодным выбарам, які пацвярджае любоў да Бога. Такое ж правіла датычыць і сакраманту споведзі. Памылковым было б звесці споведзь да чыста юрыдычнай катэгорыі і лічыць яе формай абавязку, які вернік павінен выканаць, перадусім з нагоды Пасхальных святаў. Такое разуменне споведзі пазбавіла б гэты сакрамант праўдзівага сэнсу – сустрэчы чалавека з любоўю міласэрнага Бога. Мэтай і вынікам споведзі з'яўляецца паяднанне чалавека з Богам і супольнасцю, а таксама аднаўленне праўдзівага вобразу Бога ў сабе. Прыступаючы да споведзі, вернік успрымае сябе як умілаванае Божае дзіця, г. зн. адкрывае ў сабе паўнату чалавечнасці. Дапамогай у правільным разуменні споведзі могуць быць словы святога Яна Паўла II, які ў Апостальскай адгартацыі "Reconciliatio et paenitentia" піша, што паяднанне з Богам нараджае "далейшыя паяднанні, якія выпраўляюць іншыя выкліканыя грахом разлады: пенітэнт, які атрымаў прабачэнне, яднаецца з самім сабой у глыбіні ўласнага "я", знаходзячы ўнутраную праўду; яднаецца з братамі, пэўным чынам ім пакрыўджанымі і зняважанымі; яднаецца з Касцёлам, яднаецца з усім стварэннем. З гэтай свядомасці пасля абраду паяднання ў пенітэнце нараджаецца пачуццё ўдзячнасці Богу (да гэтага заахвочвае Касцёл) за атрыманы дар міласэрнасці".

## Фармацыя да споведзі

Папа Францішак пастаянна пераконвае, што "Бог дарue заўсёды! Ён не стамляецца дараваць. Гэта мы стамляемся прасіць прабачэння". У адной са сваіх медытацый падчас святой Імшы (23.02.2015 г.) Святы Айцец сказаў: "Споведзь часта бывае руціннай фармальнасцю: стук, стук, і можаш ісці! Усё механічна! О, не! А дзе сустрэча? Дзе сустрэча з Панам, Які яднае, прымае і спраўляе свята? Наш Бог такі – вельмі добры. І мы павінны вучыць нашых дзяцей і моладзь, як добра спавядацца. Споведзь – гэта не візіт у пральню для выдалення плямы. Не! Гэты выхад на сустрэчу Айцу, Які прабачае і спраўляе свята". Заданне бацькоў – перадаць сваім дзецям праўду пра Бога. Гэта мае адносіны і да сакраманту споведзі. Трэба сцвердзіць, што выхаванне рэлігійных практык вельмі адказнае, складанае, патрабуе часу і адпаведнага ўзроўню рэлігійнай падрыхтоўкі. Асноўнай дарогай з'яўляецца фарміраванне праўдзівага і праведнага сумлення дзіцяці, якое дапамагае (у тым ліку маленькаму чалавеку) убачыць сябе і свае ўчынкі перад Богам у перспектыве адносін з іншымі людзьмі і светам. Такім чынам дзіця спазнае радасць учыненага дабра, а адкрываючы ў сабе слабасці, вучыцца навяртанню і імкненню да перамагання самога сябе. Бацькі і тыя, хто ім дапамагае, у тым ліку душпастыры, пакліканыя паказваць дзецям і моладзі вызваленчае шчасце, якое спазнаецца на дарозе паяднання з Богам і Касцёлам менавіта праз споведзь. Асаблівым знакам ёсць прыклад сям'і: дзіця павінна стаць сведкам паяднання сваіх бацькоў і іншых чальцоў сям'і. Прыклад назаўсёды застанецца найлепшым настаўнікам, а бацькі – першай катэхезай для сваіх дзяцей.

## Чын, здзейснены пад прымусам

Вераніка піша ў пытанні пра сітуацыю, калі хтосьці нейкім чынам прымушае сваіх дзяцей спавядацца. Гаворка ідзе пра моладзь. Складана паставіцца непасрэдна да "штурхання", бо, як вядома, кожны чын трэба разглядаць з розных бакоў, улічваючы акалічнасці, стан асобы, а таксама яго мэты. Калі казаць пра прымус у адносінах да споведзі, то нельга пахваліць такое дзеянне. Споведзь павінна быць свядомым і добраахвотным чынам чалавека. Хтосьці можа сказаць, што не бачыць іншай магчымасці, як толькі прымус у дачыненні да сваіх дзяцей-падлеткаў. Магчыма, што некаторыя бацькі не зусім педагагічна матывуюць дачку ці сына, аднак робяць гэта, хочучы дабра. Маральная тэалогія вучыць, што чыны бываюць унутраныя і знешнія. Першыя могуць не праяўляцца вонкава, але яны ўсвядомленыя і жаданыя (чалавек можа на гэтым спыніцца). Знешні чын звычайна з'яўляецца працягам унутранага, аднак не заўсёды, бо бываюць сітуацыі, калі хтосьці робіць нешта пад прымусам, унутрана не жадаючы гэтага. Асоба, якая паддадзена ўздзеянню прымусу, можа выказаць выразны або маўклівы супраціў. Каб больш даступна растлумачыць дзеянне пад уплывам прымусу, трэба сцвердзіць, што да выканання знешняга чыну магчыма прымусіць чалавека, аднак ніхто не ў стане прымусіць жадаць таго, чаго хтосьці не хоча ў сэрцы.

Іншай формай знешняга ціску ёсць страх. Напрыклад, пакрыўдзіць блізкую асобу. У гэтым выпадку таксама можам казаць пра ўнутраны і знешні чын. Трэба, аднак, памятаць, што пэўная форма знешняга ціску выклікана тымі, хто мае на гэта права (напрыклад, бацькамі, роднымі, сябрамі ці іншымі), можа мабілізаваць да дзеяння і мець таксама выхаваўчы характар. Тут важна ўлічваць як станоўчы, так і адмоўны вынік такога дзеяння. У выпадку сакраманту споведзі ў некаторых акалічнасцях больш настойлівая матывацыя можа стаць для чалавека дапамогай, але можа таксама прывесці да псіхалагічнай ды духоўнай траўмы. Безумоўна, неабходныя вялікая жыццёвая мудрасць і ўважлівасць, а таксама шанаванне свабоды іншага чалавека. Вызнанне грахоў на споведзі – гэта вынік і пацвярджэнне працэсу навяртання. Памылкова было б абмежаваць яго толькі да канфесіянала. Вернік, які ідзе да споведзі, павінен памятаць пра ўсе ўмовы сакраманту пакаяння і паяднання: рахунак сумлення, жаль за грахі, моцнае пастанаўленне выпраўлення, шчырая споведзь і сатысфакцыя. Чалавек, які ідзе да споведзі, павінен хацець выправіцца, а найперш зразумець, што сакрамант паяднання – гэта не пакаранне, а ласка, сустрэча з Богам, Які мяне чакае, бо любіць.

## Адказнасць за бліжніх

Вераніка сваім пытаннем адкрывае яшчэ адну сферу адносін паміж людзьмі, а менавіта адказнасць за іншага чалавека і жаданне для яго дабра. Касцёл – гэта Містычнае Цела Хрыста (г. зн. усе ахрышчаныя). Вобразна можна сказаць, што Касцёл з'яўляецца жывым арганізмам, а кожны вернік яго часткай. У такой перспектыве нам не можа быць абыякавым жыццё нашых сясцёр і братоў. Першай прасторай нашай адказнасці за іншых ёсць малітва, якой падтрымліваем адно аднаго, хоць не заўсёды бачым вынікі. Адказнасць за бліжніх, асабліва найбліжэйшых, выражаецца таксама ва ўменні дапамагчы прымаць правільныя рашэнні ды ісці па дарозе да святасці. Гэта не датычыць толькі дзяцей ці моладзі, але ўсіх.

Хрыстос даў сваім вернікам споведзь як сакрамант аздараўлення ў дарозе да збаўлення. Хрысціянская любоў да іншага чалавека, асабліва найбліжэйшага, патрабуе неаднойчы рознымі спосабамі схіляць кагосьці да перамены жыцця, да навяртання і да споведзі. Добрыя мама, тата, жонка, муж, сястра, брат ці сябры не тады, калі ўсё дазваляюць, але тады, калі ў патрэбны час паказваюць блізкім неправеднасць іх паводзін і добра раяць. Калі верым, што ад паяднання з Богам, самім сабою і бліжнімі залежыць збаўленне блізкай асобы, то ўсімі даступнымі спосабамі будзем старацца дапамагчы ёй добра падрыхтавацца і перажываць сустрэчу з Міласэрным Хрыстом у сакраманце пакаяння і паяднання. Трэба імкнуцца, каб сапраўды сваімі дзеяннямі дапамагчы пазнаць дабрыню і любоў Бога!

# Якія межы дапушчальныя ва ўзаемаадносінах хлопца і дзяўчыны?

*"Межы дапушчальнага ва ўзаемаадносінах паміж хлопцам і дзяўчынай. Пра што трэба казаць на споведзі, што з'яўляецца грахом?"*
*Ганна*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч МІС з Росіцы:**

– Адказваць на такое пытанне ў пісьмовай форме не зусім зручна. Больш адпаведнай была б атмасфера катэхезы, можа нават раздзельнай: асобна для хлопцаў, асобна для дзяўчат. Думаю, форма катэхезы для пар закаханых таксама была б адпаведнай. Перад тым, як адказваць, я б хацеў запытацца ў Вас, Ганна, што Вы думаеце на гэтую тэму? Якія Вашы "межы дапушчальнага"? Ці пытанне пра споведзь не сведчыць, што сумленне, аднак, неспакойнае? А можа, менавіта гэты неспакой сведчыць пра парушаную мяжу?

Адносіны паміж хлопцам і дзяўчынай захапляльныя, прыгожыя, рамантычныя і непаўторныя. Яны непадобныя да сямейных адносін, кіруюцца трошкі іншымі правіламі, маюць іншую працягласць у часе, іншую інтэнсіўнасць узаемнага пазнання, іншыя абавязкі ў дачыненні да сябе.

Прынцып хрысціянскага жыцця падказвае, што ў гэты час варта ўстрымацца ад інтымнасці ў розных яе праявах. Інтымнае, сексуальнае жыццё належыць да сужэнцаў, а не тым, каго называем парай, і нават не тым, хто ўжо заручаны. Сям'я праз сексуальнасць рэалізоўвае сваё пакліканне да плоднасці,



да нараджэння новага жыцця. У планы маладой пары, не сужэнства, дзеці не ўваходзяць на гэтым этапе адносін. Найчасцей нават размаўляючы на тэму намераў планаванай сям'і, маладыя людзі гавораць пра будучыню, а не пра сённяшні дзень. Таму і інтымнасць,сексуальнаежыццё не можа быць правільна рэалізаванае на гэтым этапе, а толькі ў будучыні, пасля шлюбу. Маленькае ўдакладненне: фізічна можа, але эмацыйна, духоўна, па-Божаму – не.

Існуе перакананне, што без досведу інтымных адносін перад шлюбам немагчымае сапраўднае пазнанне чалавека: маўляў, ці падыходзім мы адно аднаму? Адбываецца хуткі пераскок з пазнавання інтэлектуальнага, пачуццёвага, духоўнага на ўзровень цела, на спазнаванне цялеснае. Таму не здзіўляюся, калі праз нейкі час пасля шлюбу пачынаюцца праблемы ў адносінах, а чалавек, з якім жыву, здаецца чужым і незнаёмым. Проста ў часе да шлюбу мы былі занятыя трошкі не тым: інвестуючы ў цела, трацілі час на пазнаванне адно аднаго.

Мяжа тут вельмі хісткая, розныя духоўныя айцы гавораць па-рознаму: адны, напрыклад, дазваляюць пацалункі, іншыя не; хтосьці не бачыць праблемы ў тым, калі пара жыве разам, але без сексуальных адносін, іншыя катэгарычна на гэта не згаджаюцца. Асабіста я прытрымліваюся погляду, што цела – гэта дар Божы, які адначасова можа быць (і ёсць) вялікай пасткай. Таму я раю, каб мяжа, пра якую Вы пытаецеся, была як мага далей адсунутая, каб сябе ўзаемна не спакушаць. Як пастыр заклікаю да евангельскага радыкалізму – за ручку трымаемся, у шчочку цалуемся, разам на ноч не застаёмся!!! Вось такія кароткія парады даю тым, каго спавядаю і з кім размаўляю, і да іх абавязваю тых, хто просіцца на духоўнае кіраванне.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**30 красавіка 2017 г.**
*Лк 24, 13-35*

Сустрэча з вучнямі на дарозе ў Эмаўс – гэта аповед пра наш пошук веры ў Хрыста. І таксама навука для супольнасці, як убачыць прысутнасць Езуса сярод нас. Мы ў дарозе духоўнага развіцця, і гэта нялёгкае развіццё. Важным у такой дарозе з'яўляецца веданне Божага слова. Яго вывучэнне адбываецца паступова і з дапамогай Божай ласкі. Трэба запрашаць Езуса на прабыванне з намі. Трэба зрабіць Яму месца за сталом свайго жыцця. Трэба знайсці час, каб пагаварыць з Ім, каб спазнаць Яго. Ён не пакідае сваіх вучняў расчараванымі. Ён верны і дае слова разумення. Трэба адкрыцца на Яго словы, дазволіць сябе пераканаць. Тое, што вучні пазналі Езуса ў час ламання хлеба – гэта знак, што Езус прысутнічае на святой Імшы. Звернем увагу, што вучні вярнуліся да апосталаў і атрымалі дадатковае пацвярджэнне таго, што Езус жывы.

*– Як я асабіста клапачуся, каб бачыць прысутнасць Езуса ў сваім жыцці?*

*– Можа, крыўджуся, калі штосьці адбываецца не так, як я чакаў?*

*– Можа, ахоплены сваімі пачуццямі, не хачу слухаць Божага слова?*

*– Ці шукаю разумення Божых спраў і Божай дарогі ў Бібліі?*

*– Ці спадзяюся на Божую падтрымку і святло ў хвіліны выпрабавання?*

*– Ці прыкладаю намаганні, каб лепш зразумець Божае слова?*

*– Што для гэтага раблю?*

*– Ці ўважліва слухаю навуку на святой Імшы, шукаючы для сябе мудрасці?*

*– Ці чытаю і ці разважаю над Бібліяй?*

*– Ці ўдзельнічаю ў фармацыйных групах?*

*– Ці клапачуся пра пашырэнне сваіх духоўных ведаў?*

*– Ці пытаюся ў святара пра тое, чаго не разумею?*

*– Ці хачу пачуць адказ?*

*– Ці свядома ўдзельнічаю ў святой Імшы?*

*– Ці імкнуся лепш зразумець, што на святой Імшы адбываецца?*

*– Ці шукаю падтрымкі для свайго развіцця ў аўтарытэце Касцёла?*

*– Ці будую супольнасць вернікаў? Як?*

**7 мая 2017 г.**
*Ян 10, 1-10*

Езус ведае імя кожнага і кліча нас за сабой. Калі мы належым да ліку Яго дзяцей, то ідзём за Ім. Ён ведае дарогу і мэту жыцця, трэба трымацца Яго і не збочваць з гэтай дарогі. Ён – брама, толькі праз Яго можна дайсці да Айца. Ён дае збаўленне. Ён дае жыццё, і гэта жыццё ў дастатку. Трэба памятаць: у жыцці можна сустрэць дрэнных людзей, якія хочуць пакрыўдзіць нас. Але варта зразумець раз і назаўсёды: без Езуса мы прападзём.

*– Ці ведаю і ці памятаю, што Езус – мой пастыр і Ён ахвяраваў сваё жыццё канкрэтна за мяне?*

*– Ці памятаю, што Ён ведае, хто я?*

*– Ці радуюся, што Ён хоча завесці мяне да сапраўднага жыцця?*

*– Ці іду за Ім? Як гэта раблю?*

*– Ці паслухмяны я Яму?*

*– Ці давяраю Яму?*

*– А можа, памылкова лічу, што я – збаўца і знайду новую ўласную дарогу да Айца?*

*– Ці не бывае, што заглушаю голас Езуса сваімі чалавечымі меркаваннямі?*

*– Ці не слухаю фальшывых настаўнікаў?*

*– Можа, наіўна дазваляю, каб маім духоўным жыццём кіравалі злодзеі, якія не ведаюць Езуса?*

*– Можа, я залішне давяраю вучэнню сектантаў?*

*– Ці сапраўды вывучаю сваю веру?*

*– А можа, веру фальшываму вучэнню, а навуку Хрыста занядбоўваю?*

*– Ці не недаацэньваю ролі Касцёла ў перадаванні навукі Хрыста?*

*– Ці давяраю я Касцёлу і яго навуцы?*

*– Ці не забыўся я, што Касцёл створаны Хрыстом, каб перадаваць Яго навуку?*

**14 мая 2017 г.**
*Ян 14, 1-12*

Езус адкрывае перад сваімі вучнямі таямніцу вечнага шчасця. У Старым Запавеце гэта таямніца не была аб'яўлена да канца. Цяпер чуем, што вучняў Хрыста чакае неба, прабыванне на двары Нябеснага Валадара. Езус асабіста рыхтуе гэтае месца для сваіх вучняў, і ў канцы свету вернецца, каб забраць сваіх з сабой. Пра неба Езус расказвае пры дапамозе зямных вобразаў, але гэтага дастаткова, каб ухапіць сутнасць Яго думкі. Да гэтай хвіліны смерць была надзвычайнай з'явай, зараз жа дзякуючы Уваскросламу Хрысту мы можам супакоіць сваё сэрца надзеяй на Езуса-Пераможцу. Еднасць з Езусам – гэта еднасць з Богам і гарантыя неба. Трэба ісці праз жыццё Яго дарогай праўды. Толькі так мы дасягнём вечнага жыцця ў небе.

*– Ці ведаю я хрысціянскую навуку пра вечнае шчасце ў небе і вечнае пакаранне ў пекле?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да гэтага вучэння Езуса?*

*– Ці думаю пра ўласную смерць?*

*– Ці адрозніваецца мая думка пра смерць ад думкі людзей бязбожных, якія не ведаюць Хрыстовай навукі?*

*– Ці давяраю я Хрысту?*

*– Ці іду я праз жыццё дарогай Яго навукі?*

*– Ці разумею, што Праўда Божай навукі – гэта не мёртвы закон, а Праўда вечнага жыцця?*

*– Ці не стаўлюся несур'ёзна да сваёй непаслухмянасці Богу?*

*– Ці не лічу сябе толькі дробным парушальнікам, забываючыся, што размова ідзе пра маё вечнае збаўленне і што Езус праліў крой для майго выратавання?*

**21 мая 2017 г.**
*Ян 14, 15-21*

Тым вучням, якія будуць любіць Яго і жыць згодна з Яго навукай, Езус абяцаў Суцяшальніка. Бог Дух Святы будзе дадзены ім, каб заўсёды дапамагаў ісці дарогай Хрыстовай навукі і каб маглі зразумець гэтую навуку. Мы можам не хвалявацца, таму што Святы Дух праз Касцёл сцеражэ сапраўдную навуку Хрыста. Бог заўсёды будзе са сваім Касцёлам. Пацвярджэннем нашай любові да Езуса будзе жыццё згодна з Яго навукай. А Ён дасць нам вопыт Яго Боскай любові.

*– Ці памятаю, што Бог Дух Святы ёсць у маім сэрцы?*

*– Ці памятаю, што Бог ніколі не пакідае мяне?*

*– Ці шукаю ў Святога Духа мудрасці, суцяшэння і абароны ў справах і пытаннях, каторыя не ведаю, як вырашыць згодна з навукай Хрыста?*

*– Ці шукаю мудрасці Святога Духа ў навуцы Касцёла?*

*– Ці разважаю над Божым Словам?*

*– Ці малюся, каб даць магчымасць Богу загаварыць да мяне?*

*– Ці слухаю натхненняў Святога Духа?*

*– Ці правяраю іх сапраўднасць на духоўным кіраўніцтве, у спавядніцы, у навуцы Касцёла?*

*– Ці разумею, што мае ўчынкі сведчаць пра маю любоў да Езуса?*

*– Ці хачу лепш любіць і лепш жыць?*

*– Ці прашу дапамогі ў гэтым у Святога Духа?*

*– Ці шукаю Божай прысутнасці ў маім жыцці і сэрцы?*

*– Ці прагну досведу Божай любові?*

*– Ці адкрываюся на Божае дзеянне?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# Пазнавайка

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

## Разблытай павуцінку

Словы Езуса пра Уваскрасенне прачытаеш, калі дапаможаш кураняці разблытаць павуцінку




## Разгадай крыжаванку




1. Дзень тыдня, калі ўваскрос Хрыстос.
2. На ім быў укрыжаваны Езус.
3. Іх па традыцыі асвячаюць на Вялікдзень.
4. Як называецца апошні тыдзень перад Вялікаднем?
5. Хто адсунуў камень ад магілы Езуса?

## Колькі разоў паўтараюцца малюнкі?

Уважліва палічы, колькі разоў паўтараецца кожны малюнак. Адказ запішы ніжэй.





## Злучы аднолькавыя часткі

Злучы часткі святочных яек, якія падыходзяць, стрэлкамі. Злучаныя часткі размалюй аднолькавымі колерамі.



## Як адзначае Вялікдзень твая сям'я?

Які ўдзел ты прымаеш у падрыхтоўцы да свята Вялікадня? Як твая сям'я адзначае Вялікдзень? Раскажы пра гэта "Пазнавайцы" ў таблічцы знізу.



## Злучы правільна

Злучы правільна ўсе элементы і давядайся, чым для нас з'яўляецца свята Вялікадня!

| | |
|---|---|
| Вялікдзень – гэта перамога жыцця | над цемрай |
| Вялікдзень – гэта перамога святла | над д'яблам |
| Вялікдзень – гэта перамога Езуса | над злом |
| Вялікдзень – гэта перамога дабра | над смерцю |

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**
**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**
**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*

# У Паставах прайшла сустрэча моладзі Пастаўскага дэканату



На гэту сустрэчу, якая адбылася 8 красавіка, сабралася моладзь з Пастаў, Лынтупаў, Варапаева, у якасці гасцей прыехалі маладыя людзі з Глыбокага. На сустрэчы моладзь прэзентавала свае парафіі, спявала, паказвала сцэнкі. Завяршылася сустрэча святой Імшой у касцёле, якую ўзначаліў дэкан Пастаўскага дэканату ксёндз Павел Самсонаў.

Падрабязней пра гэту падзею чытайце на ***catholicnews.by***

# Якія прыкметы Касцёла сведчаць пра яго сапраўднасць?

*"Хвала Хрысту! У свеце існуе шмат розных цэркваў, хрысціянскіх канфесій. Як тут разабрацца? Хрыстус заснаваў адну Царкву, а іх так шмат? Ці ёсць нейкія прыкметы, арыенціры?"*
*Павел*

**На пытанне адказвае ксёндз Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай дыяцэзіі:**

– Так, сапраўды, Хрыстус заснаваў толькі адну Царкву і горача маліўся аб еднасці сярод хрысціянаў. На вялікі жаль, у гісторыі хрысціянства адбыліся шматлікія падзелы, выкліканыя чалавечай недасканаласцю. Тым не менш мы можам гаварыць па пэўныя прыкметы, па якіх можна адрозніць сапраўдную Хрыстову Царкву ад супольнасці, што не мае ўсіх прыкметаў Хрыстовай Царквы. Ёсць сем асноўных прыкметаў, якім павінна адпавядаць Хрыстова Царква.

### 1. Незнішчальнасць

Царква павінна існаваць ад самага пачатку свайго заснавання да сённяшняга дня. Яе існаванне не можа быць абмежаванае нейкім перыядам часу. Езус сказаў Пятру: "Ты – Пётр (скала), і на гэтай скале Я пабудую Касцёл Мой, і брамы пякельныя не перамогуць яго" (Мц 16,18). Як бачым, Каталіцкі Касцёл мае гэтую прыкмету. Нягледзячы на выпрабаванні і пераслед, ён існуе да сённяшняга дня.

### 2. Бачнасць

Хрыстус заснаваў Сваю Царкву бачнай. Ён сказаў: "Кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, і Я прызнаю перад Айцом Маім, Які ў нябёсах. А хто адрокся б ад Мяне перад людзьмі, ад таго і Я адракуся перад Айцом Маім, Які ў нябёсах" (Мц 10,32-33). Як мы ведаем, Каталіцкі Касцёл мае сваю іерархію, публічнае вучэнне, арганізаваны публічны культ, а таксама развітае сацыяльнае служэнне. Гэтая прыкмета бачнасці прысутнічае ў Каталіцкім Касцёле.

### 3. Еднасць (кіраўніцтва, вера, культ)

Езус хацеў для сваёй Царквы выключнай еднасці. "Ойча святы, не толькі за іх прашу, але і за тых, хто паверыць у Мяне паводле слова іхняга, каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне" (Ян 17, 20). Як вядома, найвышэйшая ўлада ў Касцёле належыць Папу, каторы ў супрацоўніцтве з біскупамі выконвае сваю місію. Адна і тая ж вера вызнаецца на розных мовах у каталіцкіх святынях па ўсім свеце. Існуюць розныя формы абрадаў, але кожны католік незалежна ад сваёй абрадавай прыналежнасці можа прымаць сакраманты і публічна маліцца ў любым каталіцкім храме ва ўсім свеце.

### 4. Паўсюднасць

Езус заклікаў сваіх вучняў абвяшчаць Евангелле ўсім народам (Мц. 28,19). Паўсюднасць або каталіцкасць Касцёла праяўляецца ў тым, што да яго належаць як людзі розных сацыяльных пластоў аднаго грамадства, так і людзі розных народаў і краін. Не існуе ніякіх абмежаванняў, каб стаць католікам.

### 5. Апостальскасць

Хрыстова Царква збудаваная на падмурку апосталаў. Хрыстус асабіста вучыў і фармаваў апосталаў, а яны ў сваю чаргу перадалі сваю апостальскую ўладу сваім наступнікам. Св. Кліменцій, які памёр прыкладна ў 100 годзе пасля Н.Х., кажа: "Хрыстус быў пасланы Богам, апосталы – Хрыстом. Яны прызначылі біскупаў і дыяканаў... і яны загадалі, што калі тыя памруць, іншыя мужы з праверанай дабрадзейнасцю павінны мець удзел у іх служэнні" (1 Пасланне Клімента 42,44). Каталіцкі Касцёл мае апостальскую пераемнасць ад самага пачатку свайго заснавання.

### 6. Святасць

У чым заключаецца святасць Хрыстовага Касцёла? Перадусім у тым, што заснавальнік Касцёла Езус Хрыстус з'яўляецца Богам. Ад Яго Боскасці і святасці звычайныя вернікі чэрпаюць сваю святасць. Хоць мы ведаем прыклады здрады (напр., Юда Іскарыёт), у Хрыстовым Касцёле безліч прыкладаў таго, як хрысціяне застаюцца вернымі свайму пакліканню да святасці. Святасць Касцёла заўважаецца ў яго маральнай дактрыне, якая ніколі не вучыць злу, але заклікае да дабра. Пра святасць Касцёла сведчаць таксама шматлікія цуды, якімі Бог пацвярджае звышнатуральнасць сваёй прысутнасці сярод вернікаў.

### 7. Беспамылковасць

На працягу стагоддзяў у пытаннях веры Касцёл ніколі не мяняе свайго вучэння. Калі б у вучэннях Папы і каталіцкіх біскупаў была нейкая сур'ёзная памылка, Касцёл бы не змог прайсці праз стагоддзі ў еднасці. Нягледзячы на памылковасць некаторых вучэнняў хрысціянаў, што адышлі ад еднасці з Касцёлам, Касцёл, як Хрыстовае Цела, застаецца непадзельным і беспамылковым.




Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2326

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 12.04.2017 г. у 11.48



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621

9 772224 962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь